ЗЬМЕСТ

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ШЛЯХ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60 | № 15-16 ЖНІВЕНЬ 1931 | ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

## РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ ДАХОДАЎ

### павінна быць праведзена выключна па колькасьці і якасьці выкананай кожным калгасьнікам работы

## ПРАВІЛЬНА

### разьмеркаваць прыбыткі ў калгасах

**Давесьці да кожнага калгасьніка пастанову НКЗ і Калгасцэнтру аб разьмеркаваньні прыбыткаў у калгасах.**

Пастанова НКЗ і Калгасцэнтру СССР аб прыкладным разьмеркаваньні прыбыткаў у калгасах, зацьверджаная Саўнаркомам СССР, мае надзвычайна важнае палітычнае значэньне. Гэта пастанова павінна быць даведзена да кожнага калгасьніка, калгасьніцы шляхам абгаварэньня на нарадах у брыгадах калгаснага актыву, сходах жанчын і агульных сходах калгасьнікаў. Адначасова з прапрацоўкай гэтай пастановы кожны калгас павінен падагуліць вынікі зьдзельшчыны, наколькі выконваюцца нормы выпрацоўкі ва ўсіх галінах работ, ці зроблены запісы кожнаму калгасьніку ў яго працоўную кніжку колькасьці прарobленай ім работы, ацэненай у працаднёх.

Разгарнуць шырокую крытыку недахопу і скрыўленьняў, якія былі дапушчаны ў мінулым годзе—у многіх калгасах, пры разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю. Да гэтых недахопаў, якія ў гэтым годзе не павінны мець месца, адносяцца: разьмеркаваньне прыбыткаў у многіх калгасах па едакох, а не па колькасьці і якасьці працы, адсутнасьць правільнай выдачы грашовых і натуральных авансаў калгасьнікам, заблытанасьць уліку прыбыткаў і адсутнасьць правільнага ўліку працы калгасьнікаў, недастатковы ўдзел самых калгасных мас у абгаварэньні самага парадку разьмеркаваньня і зацяжка самага разьмеркаваньня.

Правільнае разьмеркаваньне прыбыткаў у калгасах вырашае задачы арганізацыйна-вытворчага замацаваньня калгасаў, пад'ёму вытворчасьці працы, уздыму калгаснай гаспадаркі і росту яе таварнасьці.

**Забясьпечыць кіраўніцтвам разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю.**

Разьмеркаваньне прыбыткаў ні ў якім выпадку не павінна вырашацца бюра-

кратычна. Пры правядзеньні гэтай работы трэба захоўваць прынцып—не камандваць, не загадваць зьверху, не вырашаць пытаньні аб разьмеркаваньні прыбыткаў замест калгасьнікаў самім за іх і бяз іх, а кіраваць гэтай работай.

Неабходна забясьпечыць самы актыўны ўдзел усіх калгасьнікаў у абгаварэньні пляну і канкрэтнага парадку разьмеркаваньня прыбыткаў, каб найлепш без памылак правясьці гэту работу. Аднак гэта зусім не адзначае, што мясцовыя партыйныя, савецкія і іншыя арганізацыі павінны ўхіліцца пагэтаму ад кіраўніцтва гэтай работай. Там, дзе адсутнічае кіраўніцтва, дзе існуе самацёк і апартуністычная недаацэнка важнасьці гэтага пытаньня, там ствараецца спрыяючая глеба для кулацкай работы, накіраванай супроць калгасаў.

Прыкладам гэтага можа служыць калгас „Будзёны“, Новадворскага сельсавету, у якім у гэтым годзе пад кулацкім уплывам выдалі з поля на кожную карову калгасьніка па 250 пудоў канюшыны і сена бяз уліку працы кожнага калгасьніка. Калі-ж пасьля выдачы падлічылі патрэбы ў сене для абагуленага стада, дык аказалася, што не хапае больш 5-ці тысяч пудоў для абагуленай жывёлы калгасу, а ў гэты самы час асобныя калгасьнікі гэтага калгасу збывалі сена ў Менску на рынку. Што-ж рабіў калгассаюз, мясцавая ячэйка і сельсавет? Яны стаялі ў баку і бязьдзейнічалі, а кулак у гэты час рабіў сваю справу, накіраваную на зрыў зьдзельшчыны на падрыў калгасу.

У калгасах „Усход“ і „Чырвоная Ніва“, Каралішчанскага сельсавету, сена таксама разьмеркавалі па ўраўнілаўскаму прынцыпу, бяз уліку працы і ня ўлічыўшы сваіх абавязкаў перад дзяржавай аб здачы (продажу) па контрактацыі і патрэб калгаснай гаспадаркі. Мясцовая ячэйка КП(б)Б спахваціласяя толькі пасьля таго, як сена ужо было разьмяркована.

Гэтыя факты даволі выразна сьведчаць аб тым, што кожная партыйная і камсамольская ячэйка, сельсаветы, шэфтаварыствы павінны прымаць самы актыўны ўдзел і аказваць дапамогу ў правядзеньні работы па разьмеркаваньні прыбыткаў, выкрываючы ўсе кулацкія спробы, накіраваныя на зрыў гэтай работы, даючы ім руйнуючы адпор. Калгассаюзы павінны забясьпечыць штодзеннае канкрэтнае кіраўніцтва ходам разьмяркоўваньня даходаў і ўраджаю.

### Прыбыткі разьмяркоўваць толькі па колькасьці і якасьці працы

Прынцып „хто больш і лепш працуе, той больш атрымлівае, хто не працуе, той нічога не атрымлівае“ павінен быць цалкам пакладзен у аснову пры разьмеркаваньні прыбыткаў у кожным калгасе. Разьмеркаваньне павінна вытварацца выключна па колькасьці і якасьці працы ў адпаведнасьці з выпрацаванымі кожным калгасьнікам працаднямі. Трэба дабіцца, каб у кожным калгасе былі ўтвораны запісі кожнаму калгасьніку яго працадзён і атрыманых ім авансаў. Таксама павінен быць улічан увесь сабраны ўраджай і ўсе грашовыя прыбыткі.

Пры разьмеркаваньні прыбыткаў кожнаму калгасьніку павінны быць залічаны ўсе працадні, якія ім выпрацаваны з 1-га студзеня 1931 г. да 1 студзеня 1932 г. Да канчатковага разьмеркаваньня прыбыткаў сябры калгасаў атрымліваюць авансы ў грашовай і натуральнай форме (гэтыя авансы ўтрымліваюцца пры канчатковым разьмеркаваньні прыбыткаў). Авансы выдаюцца па пастанове праўленьня калгасу выключна ў лік выпрацаваных працадзён.

### Плян разьмеркаваньня прыбыткаў на шырокае абгаварэньне калгасьнікаў

Рэвізійныя камісіі калгасу павінны праверыць і зрабіць даклад агульнаму сходу калгасьнікаў аб выніках запісу працадзён і ўліку ўраджаю і прыбыткаў. Праўленьні калгасаў павінны скласьці плян разьмеркаваньня, шырока абгаварыць яго на нарадах у брыгадзе, актыве і пасьля гэтага на агульным сходзе абгаварыць і зацьвердзіць.

Канчатковае разьмеркаваньне прыбыткаў ува ўсіх калгасах павінна быць скончана не пазьней 15-га студзеня. Праўленьні калгасаў павінны выявіць і апрадзяліць разьмер прыбыткаў, падлягаючых разьмеркаваньню паміж кал-

гаснікамі і выдаць на рукі калгаснікам да двух трацей прыпадаючай ім часткі прыбытку на 1 лістапада.

### Тры важнейшыя задачы пры разьмерканьні прадавольственнай часткі прыбытку

Першая задача—гэта выкананьне поўнасьцю і ў самы кароткі тэрмін кожным, калгасам сваіх абавязкаў перад пралятарскай дзяржавай па здачы (продажу) таварнай часткі прадукцыі гаспадаркі.

Кулак у мінулым годзе вёў сваю падрыўную работу супроць здачы таварных лішкаў калгасамі дзяржаве, ён і ў гэтым годзе пастараецца павясьці работу, накіраваную на зрыў пляну, агітуючы сярод калгаснікаў за продаж прадуктаў прыватніку, за захаваньне прадуктаў і г. д. Кулак павінен атрымаць рашучы адпор. Калгасам патрэбна паказаць лепшыя прыклады сваячасовай і поўнай здачы таварных лішкаў.

Другая задача—скласьці насенны фонд у разьмерах, забясьпечваючых пашырэньне пасеўплошчы ў 1932 г. на 20 проц. і страхавы фонд у разьмеры 15 процантаў ад насеннага. Неабходнасьць і назначэньне гэтых фондаў зразумела для кожнага калгасьніка.

Трэцяя задача — гэта скласьці спэцыяльны прадавольственны фонд. Гэты фонд неабходзен для забесьпячэньня сямей тых калгаснікаў, якія, ня гледзячы на добрасумленную працу з-за малай колькасьці працаздольных, ня выпрацавалі колькасьць працадзён, дастатковых для забесьпячэньня сваёй сям'і прадуктамі харчаваньня.

Гэты фонд неабходзен акрамя таго для забесьпячэньня прадуктамі харчаваньня спэцыялістых, якія абслугоўваюць калгасы і для забесьпячэньня адыходнікаў і іх сямей. Прадукты з гэтага фонду адпушчаюцца вышэйпамянёным ліцам па цьвёрдым цэнам. Уся астатняя маса прадукцыі разьмяркоўваецца па працаднёх, выпрацаваных і запісаных у працоўную кніжку кожнаму калгасьніку. Пастанова НКЗ і Калгасцэнтру прадугледжвае: „што ў кожным калгасе ў залежнасьці ад колькасьці прадуктаў харчаваньня, падлягаючых разьмеркаваньню паміж калгасьнікамі, устанаўляецца вышэйшы разьмер прадавольственнага зярна, якое атрымоўвае калгасьнік, выпрацаваўшы найбольшую колькасьць працадзён, пры чым звыш гэтага ўстаноўленага разьмеру калгасьнік належачы яму прыбытак атрымлівае грашыма.

Калгасьнік, выпрацаваўшы меншую колькасьць працадзён, атрымлівае ў параўнаньні з лепшым калгасьнікам меншую колькасьць прадавольственнага зярна. Аднак гэта ні ў якім выпадку не трэба разумець, як вызначэньне калгасьнікам пайкоў і г. д.

### Правільна разьмеркаваць кармы—узмацніць і пашырыць арганізацыю калгасных малочна-таварных фэрм.

Усе калгасы павінны ўлічыць урокі мінулага году, калі абагуленая калгасная жывёла засталася к вясьне зусім бяз корму і нават былі асобныя выпадкі падзяжу скаата ад бяскорміцы, таму ў гэтым годзе кармоваму пытаньню павінна быць надана вялізарнейшая ўвага і да разьмеркаваньня кармоў трэба прыступіць з поўным падлікам усіх рэсурсаў і патрэб. Пасьля выкананьня абавязацельстваў па кантрактацыйных дагаварох у першую чаргу павінна быць забясьпечана аграмаджаная частка прадукцыйнай жывёлы, асабліва малочна-таварныя фэрмы калгасаў і рабочая жывёла.

Дзеля гэтага ў кожным калгасе ствараецца фуражны фонд грубых і канцэнтраваных кармоў для забесьпячэньня патрэб, як маючайся жывёлы, а таксама запасны фонд для намечанага па пляну калгасу пашырэньня стада. Усе астатнія кармы разьмяркоўваюцца паміж калгасьнікамі па працаднёх, выпрацаваных кожным калгасьнікам з улікам маючайся ў кожнага прадукцыйнай жывёлы. Тыя калгасьнікі, якія ў час разьмеркаваньня ня маюць жывёлы, атрымоўваць належную ім частку прыбыткаў, замест фуража, грашыма. Калі-ж калгасьнік, ня меўшы жывёлы, яе набудзе пасьля разьмеркаваньня прыбыткаў, ён можа атрымаць кармы з запаснага фонду ў неабходнай колькасьці ў адпаведнасьці з колькасьцю выпрацаваных працадзён.

### Зрабіць адлічэньне ў непадзельныя фонды

Непадзельны фонд скарыстоўваецца калгасам на пакупку машын рабочай і прадукцыйнай жывёлы і на капітальнае будаўніцтва. Непадзельны фонд вылучаецца ў грашох. Непадзельны фонд адыгрывае надзвычайна вялікую ролю ў замацаваньні і далейшым разьцізьці калгаснай гаспадаркі, таму патрэбнаа з усёй уважлівасьцю аднесьціся да гэтга пытаньня. У пастанове НКЗ і Калгасцэнтру ўказан таксама парадак адлічэньня і выкарыстаньне 5% фонду. Два процанты з гэтага фонду выкарыстоўваецца для разьмеркаваньня па маемасьці, унесенай кожным калгасьнікам у калгас і аграмаджанай, галоўным чынам, па каштоўнасьці прадукцыйнай жывёлы. Тры процанты разьмяркоўваюцца пароўну: 1,5 процанта ў прэміяльны фонд для прэміраваньня лепшых калгасьнікаў-ударнікаў і брыгадзіраў і 1,5 проц. у фонд аказаньня дапамогі калгасьнікам, якія пасылаюцца на розныя курсы. Пры чым у тых раёнах, дзе яшчэ ня маецца суцэльнай калектывізацыі, увесь 5-проц. фонд разьмяркоўваецца па маемасьці. Надзвычайна вялікае значэньне мае пытаньне палепшаньня культурна-бытавога абслугоўваньня калгасьнікаў, для гэтай мэты і ўстанаўляецца адлічэньне ў 2-процантны фонд. Неабходна пры разьмеркаваньні грашовай часткі вылічыць таксама вытворча-гаспадарчыя выдаткі.

Уся астатняя колькасьць грашовых прыбыткаў за вылічэньнем вышэйпамянёных адлічэньняў разьмяркоўваецца па працаднёх. Пры канчатковым разьмеркаваньні і выдачы калгасьнікам як грашовых прыбыткаў, так і прадукцыйнай часткі і кармоў ім залічваюцца авансы, да разьмеркаваньня імі атрыманыя. Надзвычайна важнае значэньне мае пастанова НКЗ і Калгасцэнтру адносна аграмаджаньня азімых пасеваў. Карысьць гэтага мерапрыемства, як для калгасу, таксама і для калгасьнікаў відавочна. У тых калгасах, дзе гэта яшчэ не прароблена, трэба зараз-жа яго абмеркаваць з тым, каб гэтыя пасевы былі абагулены для правядзеньня лепшай уборкі і залічаны ў валавы даход гаспадаркі. Парадак і ўмовы аграмаджаньня абгаварваюцца і ўстанаўляюцца агульным сходам калгасьнікаў.

### Разьмеркаваньне прыбыткаў павінна зьявіцца масавай кампаніяй і забясьпечыць далейшае разгортваньне калгаснага руху

Кампанія разьмеркаваньня прыбыткаў у калгасах павінна праходзіць пры шырокім актыўным удзеле ўсіх калгасных мас. Вакол гэтага пытаньня мясцовыя арганізацыі павінны правесьці шырокую масава-палітычную кампанію сярод заўтрашніх калгасьнікаў сёнешніх аднаасобнікаў.

Пляны разьмеркаваньня прыбыткаў праўленьні калгасаў павінны абгаварыць ня толькі на сходах калгасьнікаў, а і аднаасобнікаў.

Гэта кампанія павінна праходзіць пад лёзунгам шырокага прыліву ў калгасы, за ўвядзеньне зьдзельшчыны, за выкананьне і перавыкананьне ўсіх плянавых мерапрыемств, даючы рашучы адпор усякім кулацкім спробам і апартуністычным разважаньням.

**„Разьмеркаваньне калгасных прыбыткаў па прынцыпе—хто больш і лепш працуе, той больш атрымлівае, хто не працуе, той нічога не атрымлівае,—павінна стаць правілам для ўсіх калгасьнікаў і калгасаў“.**

**(З пастановы VI Усесаюзнага зьезду саветаў)**



# ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ сваячасовае і правільнае правядзеньне работы па разьмеркаваньню прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах

Разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах прадстаўляе сабой надзвычайна важны палітычны дакумант. У справе замацаваньня тых вялізарнейшых посьпехаў, якія атрыманы пры правядзеньні другой бальшавіцкай вясны на фронце сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, пытаньне правільнага разьмеркаваньня прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах зьяўляецца аднэй з важнейшых гістарычна-палітычных кампаній калгаснага будаўніцтва. Яно павінна быць пакладзена ў аснову ўсёй работы калгассаюзаў і калгасаў. Асноўны прынцып—„хто больш і лепш працуе, той больш атрымлівае, хто не працуе, той нічога не атрымлівае“, высунуты VI усесаюзным зьездам саветаў і Чэрвеньскім пленумам ЦК УсеКП(б) павінен быць ажыцьцёўлен з усёй бальшавіцкай рашучасьцю.

З усёй энэргіяй у самы найкарацейшы тэрмін павінны быць прасунуты да кожнага паасобнага калгасу і калгасьніка пастанова НКЗ і Калгасцэнтру СССР, асноўныя моманты гэтай пастановы, як найхутчэй павінны быць абгавораны і прапрацованы шырокімі коламі калгасьнікаў (на сходах актыву, кожнай брыгадай, дэлегацкіх сходах жанчын, агульных сходах калгасьнікаў) з тым, каб ня было ніводнага калгасьніка, ня ведаючага асноўных прынцыпаў разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў. Усякае паслабленьне кіраўніцтва гэтай справы з боку калгассаюзаў, кожны дзень замядленьня, дапамагае кулацтву праводзіць сваю пякельную разбураючую работу. Апартуністычная бязьдзейнасьць Койданаўскага, Крупскага. Менскага, Чырвона - Слабодзкага, Лёзьнянскага, Слуцкага, Бабруйскага і інш. раёнаў ужо прывяло да грубых скажэньняў прынцыпа разьмеркаваньня кармоў. Шэраг калгасаў у гэтых раёнах разьмеркаваў кармы проста на сенажаці па колькасьці неабагуленых кароў калгасьнікаў, па едаках і гаспадарках бяз уліку колькасьці і якасьці працы калгасьнікаў, патрэб для абагуленай жывёлы і здачы (продажы) дзяржаве па контрактацыі. Кулак зрабіў сваю справу ў гэтых раёнах, ён імкнецца і надалей працягнуць, каб гэтым самым падарваць зьдзельшчыну і сарваць

мерапрыемствы па разьвіцьцю сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Нельга сказаць, што ў гэтых раёнах кулацтва скарыстала палітычную сьлепату раённых работнікаў і актыву вёскі, яно атрымала садзейнічаньне з боку апартуністых раёнаў. Пастановай калегіі НКЗ і праўленьня Калгасцэнтру старшыня Койданаўскага РКС т. Хадасевіч зьнят з працы, а загадчыкам Райза і старшыням калгассаюзаў гэтых раёнаў абвешчана вымова; адначасова прапанавана правесьці шэраг практычных мерапрыемстваў па выпраўленьню работы.

Гэты цяжкі ўрок павінен быць улічан усімі раёнамі. Неабходна на падставе шырокага растлумачэньня пастановы НКЗ і Калгасцэнтру СССР, мабілізацыя усяго раённага, вясковага і калгаснага актыву дабіцца ўва ўсіх калгасах у максымальна хутчэйшы тэрмін давядзеньня пастановы НКЗ і Калгасцэнтру да кожнага калгасьніка, абгаварэньня іх на сходах брыгад, калгаснага актыву, жаночых і г. д. Аб мерапрыемствах партыі ўраду, якія забясьпечваюць замацаваньне калгасу і аплату працы ўдарнікаў, добрасумленна працуючых калгасьнікаў павінны быць пастаўлены ў сьвядомасьць усіх калгасьнікаў. Каб правесьці сапраўднае разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў па колькасьці і якасьці затрачанай працы і палажыць канец кулацкаму шыпеньню: „Працуй колькі хочаш, а атрымаеш па ядакам“—неабходна безадкладна скончыць ва ўсіх калгасах падлік і запіс у працоўныя кніжкі кожнаму калгасьніку лік выпрацаваных ім дзён спачатку году. Аб выніку зацісу працадзён павінна быць далажана рэўкамісіямі на агульных сходах калгасьнікаў не пазьней 15 жніўня. Гэтая работа зьяўляецца важнейшым этапам у разьмеркаваньні прыбыткаў і рэўкамісіі павінны да яе падыйсьці з усёй сур'ёзнасьцю. Яны павінны забясьпечыць атрыманьне вычарпальных даных для налічэньня працадзён, запісу іх у працоўныя кніжкі кожнаму калгасьніку, а таксама прасачыць і садзейнічаць безадкладнаму прасоўваньню працоўных кніжак да кожнага калгасьніка. Адначасова рэўкамісіі павінны дабіцца не кампанейскага, а сыстэматычнага штодзеннага і ня менш аднаго разу ў 5 дзён, запісу працадзён у кніжку, праводзячы праверку запісаў у працоўных кніжках з запісамі ў асабовых рахунках калгасьнікаў, выпраўляючы памылкі і блытаніну. Тэрміны правядзеньня гэтай работы (1-га і 15 жніўня), вызначаныя НКЗ і Калгасцэнтрам, таму ў працы рэўкамісіі патрэбен рашучы пералом. Рэўкамісіі павінны стаць сапраўднымі апэрацыйнымі органамі грамадзкага кантролю.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на арганізацыю правільнага і дакладнага ўліку ўсяго сабранага ўраджаю, не дапушчаючы ссыпкі і складаньня прадуктаў бяз точных запісаў. З гэтай мэтай кожны калгас павінен вылучыць асобнага калгасьніка, які адказваў-бы за правядзеньне гэтай работы.

Пасьля дасканалага правядзеньня падліку працадзён, сабранага ўраджаю і атрыманых калгасам прыбыткаў з іншых крыніц неабходна прывесьці папярэднае разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў у суадпаведнасьці з пастановай НКЗ і Калгасцэнтру БССР.

Пры гэтым кожны калгас павінен паставіць перад сабой наступныя задачы:

а) Выканаць поўнасьцю і датэрмінова перад дзяржавай абавязкі па здачы (продажы) прадукцыі па кантрактацыі. Калгасьнікі на справе павінны, паказаць, што яны зьяўляюцца сапраўды галоўнай і асноўнай апорай Савецкай улады на вёсцы. „Ніводнага кілё збожжа не павінна пайсьці на прыватны рынак“,—павінна быць адказам калгасаў на тую вялізарнейшую вытворчую дапамогу ім з боку Савецкай улады.

б) Забясьпечыць пасеўную плошчу з улікам яе пашырэньня ня менш як на 20 проц. насеньнем шляхам стварэньня адпаведных насенфондаў і страхфондаў.

в) Забясьпечыць кармамі абагуленую жывёлу з улікам росту статку шляхам стварэньня кармавых фондаў і недатыкальных у разьмеры ня менш 20 проц. ад кармавых фондаў. Трэба цьвёрда помніць вопыт мінулага году, калі некаторыя калгасы, падаўшыся кулацкай агітацыі, разбазарылі кармы, а вясной перажывалі вострую бяскорміцу. Толькі пасьля

ствара́ньня поўнасьцю кармовага і недатыкальнага фондаў для абагуленай жывёлы рэштка кармоў разьмяркоўваецца паміж калгасьнікамі па колькасьці выпрацаваных працадзён з улікам наяўнасьці прадукцыйнай жывёлы.

г) Забясьпечыць калгасьнікаў, добрасумленна працуючых, але маючых мала працадзён, калгасьнікаў - адыходнікаў, асоб, абслугоўваючых калгас (аграномаў, дактароў, настаўнікаў і інш.) шляхам стварэньня спэцыяльнага харчовага фонду. Але неабходна сачыць, каб пад маркай гэтага фонду не хаваліся таварныя лішкі для мэт далейшага разбазарваньня іх. •

д) Стварыць поўнасьцю суадпаведна пастанове НКЗ і Калгасцэнтру СССР непадзельны і іншыя капіталы ў мэтах далейшага замацаваньня і разгортваньня гаспадаркі, узмацненьня культработы, выхаваньня ўласных кадраў і г д.

е) Рэштку прадуктаў і грошы пасьля паказаных у пастанове адлічэньняў разьмеркаваць паміж калгасьнікамі выключна па працаднёх, рашуча змагаючыся супроць разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў па едаках, дварох і іншых кулацкіх прынцыпах. Неабходна ўстанавіць вышэйшы разьмер прадуктовага зерня, якое атрымлівае кожны калгасьнік, выпрацаваўшы найбольшую колькасьць працадзён. Калгасьнікі павінны ўжо адыходзіць ад старых уласьніцкіх прывычак—накапліваць лішак зярна, яны павінны памятаць, што гэта супярэчыць прынцыпам барацьбы саміх калгасьнікаў за ліквідацыю кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі. Акрамя таго гэта і дасьць магчымасьць атрымаць больш хлеба калгасьніку, які больш працаваў у параўнаньні з калгасьнікам, выпрацаваўшым меншую колькасьць дзён. Асабліва чотка павінна быць праведзена работа па выдачы авансаў таксама выключна па працаднёх у разьмеры ня больш $^{2}/_{3}$ часткі прылічэньняў кожнаму калгасьніку долі з улікам ужо атрыманых авансаў і толькі тым калгасьнікам, якія выконваюць працоўныя заданьні праўленьняў калгасу. Кулак тут паспрабуе правясьці свой ураўнілаўскі ядоцкі прынцып.

Трэба цьвёрда памятаць, што ўся работа кулака сканцэнтравана цяпер галоўным чынам на гэтым вучастку калгаснага будаўніцтва, што праца па разьмеркаваньню ўраджаю будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Спробам кулака, падкулачніка, рвача, лодыра ажыцьцявіць сваю „ўраўнілаўку" трэба даць рашучы адпор. Камісія па разьмеркаваньню ўраджаю павінна праводзіцца пры шырокім удзеле ўсіх калгасьнікаў і вынікі разьмеркаваньня ўраджаю абгавораны на агульных сходах пры шырокім удзеле беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў.

Лёзунг кампаніі павінен быць: „За шырокі калгасны прылів, за выкананьне і перавыкананьне ўсіх заданьняў партыі і ўраду, за арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў".

**Лашкевіч**



# АБ ХОДЗЕ ЎБОРКІ ўраджаю і падрыхтоўкі ДА АСЕНЬНЯЙ СЯЎБЫ

**Пастанова Бюро Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б**

1. Цэнтральны Камітэт прызнае ход ажыцьцяўленьня ў БССР рашаючых мерапрыемстваў, якія забясьпечваюць пасьпяховасьць кампаніі ўборкі ўраджаю і падрыхтоўкі да асеньняй сяўбы не здавальняючым:

а) Асабліва ў кепскім становішчы знаходзіцца справа з практычным ажыцьцяўленьнем зьдзельшчыны ў калгасах і з падрыхтоўчаю работаю да разьмеркаваньня ўраджаю (затрымкі з выдачаю працоўных кніжак, усё яшчэ нездавальняючая пастаноўка ўліку і запісі адпрацаваных дзён і г. д.).

б) Цэнтральны Камітэт КП(б)Б поўнасьцю далучаецца да паказаньняў газэты „Правда" і адзначае недапушчальна слабыя тэмпы барацьбы за практычнае ажыцьцяўленьне ў калгасах зьдзельшчыны, а таксама канстатуе, што ў выніку слабай барацьбы з кулацкай „ураўнілаўкай" у калгасах мелі месца выпадкі ўраўніцельнага разьмеркаваньня кармоў.

в) З гэтых-жа прычын выцякае нездавальняючы ход сенаўборкі і наяўная рэальная пагроза зрыву сіласаваньня.

г) У пераважнай большасьці раёнаў таксама не вядзецца ніякай падрыхтоўчай работы да перакідкі ў час уборкі рабочай сілы з найбольш забясьпечаных рабочымі рукамі калгасаў у саўгасы і найменш забясьпечаныя рабочаю сілаю калгасы.

2. Цэнтральны Камітэт КП(б)Б з асаблівай сілай падкрэсьлівае неабходнасьць у яшчэ большай меры сканцэнтраваць ўсю ўвагу, усе сілы і бальшавіцкую волю і настойлівасьць кожнай партыйнай ячэйкі і партыйца, паасобку, усёй КП(б)Б у цэлым, на самай рашучай і пасьлядоўнай барацьбе з адзначанымі вышэй апартуністычнымі скажэньнямі лініі партыі ў калгасным будаўніцтве, за поўнае і няўхільнае ўвядзеньне зьдзельшчыны, за сваячасовае выяўленьне і разьмеркаваньне лішкаў рабочай сілы, за далейшы магутны прыліў у калгасы; за выкананьне задачы суцэльнай калектывізацыі с.-г. і ліквідацыі на гэтай базе кулацтва як клясы.

б) Партыйным арганізацыям неабходна забясьпечыць самае шырокае растлумачэньне як калгасьнікам, так і аднаасобнаму сэктару — бядняцка-серадняцкім гаспадаркам задач уборачнай кампаніі, завастраючы асаблівую ўвагу на пытаньнях барацьбы з кулацкай ураўнілаўкай, на неабходнасьці поўнага ажыцьцяўленьня ва ўсіх калгасах зьдзельшчыны, выяўленьня і разьмеркаваньня лішкаў рабочай сілы, папярэдняй грунтоўнай падрыхтоўкі да разьмеркаваньня ўраджаю, на разьмеркаваньні кармоў, на выдачу калгасьнікам авансаў выключна ў залежнасьці ад адпрацаваных працадзён і г. д.

3. Прапанаваць усім райкомам КП(б)Б райвыканкомам, саўгастрэстам і Белкалгасцэнтру правесьці наступныя мерапрыемствы.

а) Уборку натуральных сенажацяй скончыць да 5-га жніўня.

б) Уборку азімых у паўднёвай і сярэдняй зоне—да 5 жніўня і паўночнай зоне да 10-га жніўня.

в) Плян сіласаваньня кармоў выканаць

да 1-га верасьня ня менш, як на 65 проц. і на 100 проц. да 1-га кастрычніка 1931 г.

г) Пасеў азімых у паўночнай зоне скончыць да 1 верасьня, у сярэдняй зоне—да 5 верасьня і ў паўднёвай зоне—да 10 верасьня.

д) Уборка ільну ў паўднёвай зоне скончыць да 25-га жніўня, у сярэдняй зоне—да 30 жніўня і ў паўночнай зоне—да 5 верасьня. Райвыканкомам і райкомам устанавіць цьвёрдыя тэрміны ўборкі бульбы для кожнага саўгасу і калгасу з такім разьлікам, каб да 1 кастрычніка было ўбрана ня менш 75 проц. і на 100 проц. да 1 кастрычніка.

4. Абавязаць саўгастрэсты, Трактарацэнтр скончыць рамонт трактараў да 5 жніўня, прыняўшы ўсе захады да скарыстаньня трактараў выключна на пахаці і падняцьці цэлінных зямель з тым, каб у гэтым годзе было паднята ня менш 250.000 гект. цаліны, а з іх пад кармовыя культуры 100.000 гект. і пад лён 150.000 гектараў.

5. Адзначаючы абсалютна няўважлівыя адносіны раду цэнтральных гаспадарчых і раённых установ і арганізацый да застаўленьня плошчы пад насеньнікамі шматгадовых траў, збору дзікарастучых траў, абавязаць кіраўнікоў цэнтральных гаспадарчых арганізацый, сакратароў райкомаў КП(б)Б і старшынь райвыканкомаў забясьпечыць застаўленьне плошчаў пад насеньнікамі, пакрываючае патрэбу ў насеньні кармовых культур у 1932 г.

6. Абавязаць Наркамзем, Белкалгасцэнтр і саўгастрэсты выдаць адпаведныя паказаньні на месцы аб сваячасовай і поўнай уборцы і абмалоце ўраджаю, поўным скарыстаньні наяўных с.-г. машын і ажыцьцяўленьні іншых мерапрыемстваў з тым, каб страт пры ўборцы ўраджаю не дапусьціць.

7. Райкомам і райвыканкомам, побач з замацаваньнем існуючых калгасаў правядзеньнем абагульваньня пасеваў, прыняць усе захады да далейшага, яшчэ большага ўзмацненьня тэмпаў калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

8. Адзначаючы затрымку, а па некаторых катэгорыях—амаль поўны зрыў падрыхтоўкі масавых кадраў да ўборачнай кампаніі, прапанаваць Наркамзему, Белкалгасцэнтру і райкомам КП(б)Б не пазьней 10-га жніўня скончыць поўнасьцю падрыхтоўку кадраў, а таксама перакідку калгасьнікаў у ліку 30.000 для перанясеньня вопыту лепшых калгасаў у новыя.

9. Белсельгасснабу, Сампрамсаюзу і ВСНГ забясьпечыць выраб с.-г. машын, машын па апрацоўцы ільну і бульбакапалак, забясьпечыўшы хутчэйшы завоз іх і прасоўваньне да саўгасаў і калгасаў.

10. Абавязаць фракцыю ЦСПСБ безадкладна прыняць канкрэтныя захады па забесьпячэньні непасрэднай дапамогі прыгарадным гаспадаркам па праполцы і ўборцы гародных культур.

11. Даручыць агітмасаваму аддзелу ЦК КП(б)Б, пры ўдзеле Наркамзему мабілізаваць на месяц 75 работнікаў цэнтральнага маштабу ў якасьці ўпаўнаважаных ЦК па правядзеньні ўборачнай кампаніі ў наладжваньні вучоту працы ў калгасах.

Абавязаць мабілізаваных таварышоў у 5-ці дзённы тэрмін выехаць на месцы прызначэньня.

а) У распараджэньне ўпаўнаважаных ЦК па правядзеньні ўборачнай кампаніі камандыраваць 30 прыезжаючых студэнтаў Ленінградзкага камвузу і 20 студэнтаў прадапошняга курсу с.-г. ВУЗ'аў БССР, увязаўшы для іх гэту работу з прахаджэньнем вытворчай практыкі.

12. У мэтах мабілізацыі самых шырокіх рабочых і калгасных мас на правядзеньне ўборкі ўраджаю, падрыхтоўкі да асеньняй сяўбы і зяблевага ворыва, арганізаваць па прыкладу вясеньняй пасеўкампаніі конкурс на сваячасовае і поўнае правядзеньне ўборкі ўраджаю, асеньняй сяўбы і зяблевага ворыва, стварыўшы пры ЦК штаб у складзе прадстаўнікоў ЦК Наркамзему, Белкалгасцэнтру, ЦСПСБ, ЦК ЛКСМБ і рэдакцыі газэты „Зьвязда“.

13. Пастанову апублікаваць у друку

МАБІЛІЗАЦЫЯЙ ПАРТЫЙНЫХ І КАЛГАСНЫХ МАС, КАНКРЭТНЫМІ МЕРАПРЫЕМСТВАМІ ЗАБЯСЬПЕЧЫМ ПОЎНУЮ РЭАЛІЗАЦЫЮ АДОЗВЫ ЦК УсеКП(б) І СНК СССР АБ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ

# Аб разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі

## УСІМ ПАРТЫЙНЫМ, САВЕЦКІМ, ГАСПАДАРЧЫМ, ЗЯМЕЛЬНЫМ І КАЛГАСНЫМ АРГАНІЗАЦЫЯМ

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) і Савет Народных Камісараў СССР лічаць работу па стварэньні і ўмацаваньні сацыялістычнага сэктару ў галіне жывёлагадоўлі—саўгасаў і калгасных таварных фэрм—цэнтральнай задачай бліжэйшага часу ў галіне сельскай гаспадаркі. 1931 г. і 1932 гады павінны быць гадамі такога-ж рашучага пералому ў галіне разгортваньня жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 гады ў справе арганізацыі сацыялістычнай збожжавай гаспадаркі.

Ня гледзячы на кароткі тэрмін свайго існаваньня, аграмаджаная жывёлагадоўля (саўгасы і калгасныя таварныя фэрмы) ужо стварыла значнае стада 2 млн. штук буйной рагатай жывёлы ў жывёлагадоўчых саўгасах, 745 тысяч кароў у таварных калгасных фэрмах, поўмільёна сьвіней саўгасаў Сьвінавода, 250 тысяч сьвінаматак у калгасных фэрмах) і заняла значнае месца ў вырабе таварнага масла. (На 1 ліпеня г. г. малочныя таварныя калгасныя фэрмы і жывёлагадоўчыя саўгасы здалі 680 тысяч пудоў масла).

Савет Народных Камісараў СССР і Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) звараваюць увагу ўсіх партыйных, савецкіх і калгасных арганізацый на тое, што ў асобе калгасных таварных фэрм і інкубатарных птушніцкіх станцый знойдзена форма стварэньня аграмаджанай жывёлагадоўлі і птушніцтва, якая найбольш адпавядае сучаснай арцельнай стадыі разьвіцьця калгаснай гаспадаркі і побач з саўгасамі найбольш хутка вырашае задачу стварэньня буйной таварнай жывёлагадоўлі. Гэта форма гаспадаркі дае высокую таварнасьць—каля 70 проц. па малаку і масьле замест 10—20 проц. у аднаасобных гаспадарках і замест 10—30 проц. у звычайным аграмаджаным калгасным стадзе. Гэта форма гаспадаркі заслугоўвае ўсямернага падтрыманьня з боку ўсіх партыйных і савецкіх органаў. Зьяўляючыся аднэй з выгаднейшых сельска-гаспадарчых галін калгаснай гаспадаркі і разьвіваючыся побач з аднаасобнай спажывецкай жывёлагадоўчай гаспадаркай калгасьнікаў і аграмаджаным стадам у калгасах, калгасныя фэрмы ў далейшым, нясумненна, стануць важнейшым вытворнікам таварнай жывёлагадоўчай прадукцыі для дзяржавы.

Побач са значнымі колькаснымі посьпехамі ў галіне разгортваньня жывёлагадоўчых саўгасаў і таварных фэрм калгасаў, ЦК УсеКП(б) і СНК СССР адзначаюць рэзкае адставаньне якасных паказальнікаў: невыстарчальнае кармленьне і дрэнны догляд жывёлы і безгаспадарчасьць у радзе жывёлагадоўчых саўгасаў і некаторае адставаньне ва ўкамплектаваньні стада саўгасаў па лініі Саюзмяса, — акалічнасьці, якія тармозяць выкананьне прынятай урадам праграмы будаўніцтва жывёлагадоўчых саўгасаў і таварных калгасных фэрм у 1931 годзе.

Шляхам будаўніцтва саўгасаў і калгасаў партыя вырашыла збожжавую праблему і ўжо дабілася рашучых зрухаў у справе разьвіцьця тэхнічных культур (бавоўна, лён, буракі),

Першыя крокі па будаўніцтве сацыялістычнай жывёлагадоўлі (жывёлагадоўчыя саўгасы, калгасныя таварныя, малочныя і сьвінагадоўчыя фэрмы і інкубатарна-птушніцкія станцыі, аграмаджанае стада ў калгасах) паказваюць, што і вырашэньне задачы па ўздыме жывёлагадоўлі і павялічэньні таварнай жывёлагадоўчай прадукцыі можа быць праведзена толькі тым-жа выпрабаваным шляхам, г. зн. шляхам стварэньня і ўмацаваньня буйной аграмаджанай гаспадаркі па жывёлагадоўлі.

У 1931 годзе павінен быць закладзен цьвёрды фундамант для далейшага шпаркага разьвіцьця сацыялістычнага сэктару жывёлагадоўлі з тым, каб забясьпечыць і ў гэтай апошняй, пакуль яшчэ слаба аграмаджанай, галіне сельска-гаспадарчай вытворчасьці перамогу сапраўды арганізаванай, мэханізаванай, аснаванай па апошніх дасягненьнях навукі буйной сацыялістычнай гаспадаркі.

У адпаведнасьці з гэтым ЦК партыі і СНК СССР пастанаўляюць:

1. Давесьці стада жывёлагадоўчых саўгасаў і калгасных таварных фэрм да канца 1931 году: па Жывёлаводзве — да 2.800.000 штук, па Сьвінаводзе— 1.900.000 штук, па малочных рэспубліканскіх трэстах — да 260.000 кароў, у тым ліку па Малакатрэсьце РСФСР— 130.000 кароў, па Маслатрэсьце — да 180.000 штук (з павялічэньнем супроць пляну на 70.000 кароў), па „Союзсахару"—да 140.000 кароў (з павялічэньнем супроць пляну на 50.000 кароў) і да 40.000 сьвінаматак, па Аўцаводзтве—да 4.800.000 авечак (з павялічэньнем супроць пляну на 800.000 штук), па Аленяводчым трэсьце РСФСР—да 200.000 шт., па птушкатрэстах — да 3.000.000 штук птушкі, па Малакакалгасцэнтры — да 1.500.000 дойных кароў, па Сьвінаводкалгасцэнтры — да 700.000 сьвінаматак, па Інкубатарптушкацэнтры да 10.000.000 штук птушкі.

2. Прапанаваць Наркамснабу СССР перадаць саўгасам і таварным калгасным фэрмам да канца 1931 г.: 1.700.000 шт. буйной рагатай жывёлы, у тым ліку да 1 кастрычніка—1.200.000 штук; цялят і маладнака — 2.500.000 штук, у тым ліку да 1 кастрычніка — 2.100.000; сьвінаматак—415.000 штук, у тым ліку да 1 кастрычніка 315.000 штук; авечак да 1 кастрычніка — 2.000.000; птушкі здаць да 1 кастрычніка: курэй—570.000 штук, гусей—75.000 штук, качак — 300.000 штук, забясьпечыўшы строгае выкананьне пакваргальных і месячных плянаў камплектаваньня стада.

3. Прапанаваць Калгасцэнтру папоўніць аграмаджанае стада калгасаў ня менш чым на 1,5 млн. цялят, 500 тыс. парасят і 1 млн. ягнят у 1931 годзе і ня менш, чым на 4 млн. цялят, 3 млн. парасят і 2 млн. ягнят у 1932 годзе шляхам куплі праўленьнямі калгасаў маладняка ў сваіх членаў, а таксама шляхам аграмаджаньня часткі прыплоду жывёлы калгасьнікаў.

4. Абавязаць мясцовыя партыйныя арганізацыі і зямельныя органы аказваць усялякую садзейнасьць камплектаваньню стада калгасных жывёлагадоўчых фэрм шляхам вылучэньня калгасамі для гэтых фэрм пэўнай часткі сваёй аграмаджанай жывёлы, а таксама шляхам куплі ў сваіх членаў для фармаваньня стада фэрм кароў і сьвіней і ў асаблівасьці цялят і парасят.

5. Прапанаваць Наркамснабу СССР праводзіць здачу жывёлы саўгасам і калгасным таварным фэрмам пераважна непасрэдна з першапачатковых загатоўчых пунктаў з тым, каб жывёла, якая загатаўляецца Саюзмясам, адпраўлялася ў нагульныя гурты і на забой толькі пасьля агляду гэтай жывёлы і адбору прыгоднай для вытворчых мэт жывёлы на ўкамплектаваньне саўгасаў і калгасных таварных фэрм у лік пляну. Устанавіць тэрміны для адбору жывёлы з загатоўчых пунктаў Саюзмяса прыёмшчыкамі жывёлагадоўчых саўгасаў ад 5 да 8 дзён.

Прапанаваць Наркамснабу СССР на справе забясьпечыць выкананьне ўстаноўленай законам забароны забою племянных кароў і вытворнікаў, прыцягваючы вінаватых у парушэньні гэтага закону да самай строгай адказнасьці.

Абавязаць органы Наркамзему прымаць, племяную жывёлу, якая перадаецца загатоўчымі базамі Саюзмяса, для кам-

плектаваньня стада саўгасаў ва ўсіх без выключэньня раёнах па-за залежнасьцю ад плянаў камплектаваньня данага раёну.

6. Адзначаючы ненармальна вялікую страту жывёлы, у асаблівасьці маладняка, у жывёлагадоўчых саўгасах за прайшоўшую зіму, ЦК УсеКП(б) і СНК СССР прапануюць жывёлагадоўчым трэстам, цэнтрам калгасных таварных фэрм, зямельным органам і калгассаюзам прыняць належныя меры да рашучага паляпшэньня догляду жывёлы і да зьніжэньня процанту адыходу ад рознага роду хвароб і нездавальняючага ўтрыманьня жывёлы і дабіцца ў бліжэйшыя гады рашучага павялічэньня тэмпаў прыросту стада саўгасаў і калгасаў.

7. Зацьвердзіць плян вытворчасьці і здачы жывёлагадоўчымі трэстамі і цэнтрамі калгасных таварных фэрм прадукцыі на 1931 год у наступных разьмерах:

а) па масьле 34,9 тыс. тон,
у тым ліку: Маслатрэст 3,5 тыс. тон.
Жывёлавод 4,0 тыс. тон.
Рэсп. малочныя трэсты 1,0 тыс. тон.
„Саюзсахар“ 3,4 тыс. тон.
Усяго па саўгасах 11,9 тыс. тон.
Таварныя фэрмы Малакакалгасцэнтру (у пераводзе на малако — 510.000 тон) 23,0 тыс. тон.

б) па мясе 103,6 тыс. тон,
у тым ліку жывёлавод 48,3 тыс. тон.
Сьвінавод 18,0 тыс. тон.
Аўцавод 8,0 тыс. тон.
Жывёлагадоўчыя рэспубліканскія трэсты і Маслатрэст 6,0 тыс. тон.
„Союзсахар“ 18,5 тыс. тон.
Сьвінаводкалгасцэнтр 4,8 тыс. тон.

в) па воўне:
Аўцавод 8,0 тыс. тон па дагаворы.

г) па яйках 50,3 тыс. скрынак,
у тым ліку: Птушкатрэсты 5,3 тыс. скрынак.
Інкубатарптушкацэнтр 45,0 тыс. скрынак.

д) па малаку:
Рэсп. малакагароднінатрэст 160,0 тыс. тон.

е) па казэіне:
Маслатрэст 1.000,0 тон.

ж) па сыры і брынзе: 5,9 тыс. тон.
у тым ліку:
Маслатрэст 1,0 тыс. тон сыру.
Аўцавод 1,9 тыс. тон брынзы.

8. Зацьвердзіць плян Наркамснабу СССР па адкорме буйной рагатай жывёлы і сьвіней на адкідах харчовай прамысловасьці грамадзкага харчаваньня і прыгародных гаспадарак на пэрыяд з 1 кастрычніка 1931 году па 1 студзеня 1933 году ў колькасьці 500 тыс. штук буйной рагатай жывёлы і 2.100 тыс. шт. сьвіней, у тым ліку ў IV квартале 1931 г. буйной рагатай жывёлы 125 тыс. штук, сьвіней 451.200 штук.

9. Адзначаючы вялізарнае значэньне дробнай жывёлагадоўлі (сьвінагадоўля, птушніцтва, трусагадоўля) у справе мяснога забесьпячэньня, ЦК УсеКП(б) і СНК СССР прапануюць усім мясцовым партыйным, зямельным і калгасным арганізацыям аддаць асаблівую ўвагу разьвіцьцю гэтых скарасьпелых відаў жывёлагадоўлі.

Прапанаваць — Сьвінаводкалгасцэнтру адкарміць і здаць дзяржаве ў 1932 годзе ня менш 2 млн. штук сьвіней; апрача таго прапанаваць Калгасцэнтру паставіць задачу перад калгасамі, якія ня маюць сьвінагадоўчых і птушніцкіх таварных фэрм, арганізаваць у кожным калгасе калектыўную гадоўлю і калектыўны продаж дзяржаве: ад 10 да 50 сьвіней у адкормленым выглядзе, у залежнасьці ад магутнасьці калгасу, у раёнах аўцагадоўлі—ад 10 да 50 авечак, у раёнах птушніцтва—ад 100 да 500 шт. птушкі і ў раёнах трусагадоўлі—ад 100 да 300 трусоў.

Прапанаваць Цэнтарсаюзу паставіць такую-ж задачу перад сельскімі спажывецкімі таварыствамі.

Даручыць Наркамснабу СССР сумесна з Наркамземам, Калгасцэнтрам і Цэнтрасаюзам у двухдэкадны тэрмін вызначыць мерапрыемствы па матар'яльным заахвочваньні калгасаў і спажывецкіх таварыстваў, якія з посьпехам выконваюць указанае заданьне.

10. Для забесьпячэньня выкананьня пляну здачы таварнай прадукцыі жывёлагадоўчых саўгасаў і калгасных таварных фэрм:

а) абавязаць зямельныя органы ў далейшым яшчэ больш узмацніць устаноўлены імі нагляд за ходам здачы таварнай прадукцыі саўгасамі і таварнымі фэрмамі, няўхільна прыцягваючы дырэктароў саўгасаў і таварных фэрм, вінаватых у разбазарваньні таварнай прадукцыі, да суровай адказнасьці, як за пакражу народнай маемасьці:

б) устанавіць спэцыяльныя прэміі за перавыкананьне пляну здачы прадукцыі паасобнымі саўгасамі і калгаснымі таварнымі фэрмамі як у форме грошавых і натуральных выдач дырэктаром, рабочым і спэцыялістам жывёлагадоўчых саўгасаў, якія перавыканалі плян, так і ў форме прэміяваньня саўгасаў і таварных фэрм у цэлым шляхам водпуску звыш пляну трактараў, машын, а таксама дадатковага водпуску канцэнтраваных кармоў, племянных вытворнікаў і інш.;

в) забясьпечыць у адносінах усіх без выключэньня спэцыялістаў, вышэйшага адміністрацыйнага пэрсаналу і старэйшых рабочых саўгасаў правядзеньне ўстаноўленай Наркамземам СССР сыстэмы павышэньня заработнай платы гэтых катэгорый работнікаў саўгасаў у адпаведнасьці з разьмерамі вытворчасьці і здачы таварнай прадукцыі.

11. Абавязаць ЦК нацкампартыі, краявыя камітэты (абласныя камітэты), СНК саюзных і аўтаномных рэспублік і крайвыканкомы ўстанавіць рэгулярны нагляд за ходам камплектаваньня стада саўгасаў і калгасных таварных фэрм, а таксама за здачай саўгасамі і калгаснымі таварнымі фэрмамі таварнай прадукцыі і забясьпечыць поўнае і своечасовае выкананьне пляну камплектаваньня стада саўгасаў і таварных калгасных фэрм і выкананьне імі пляну па здачы таварнай прадукцыі.

12. Адзначаючы, што стварэньне моцнай кармавой базы зьяўляецца рашаючай умовай пасьпяховага разгортваньня жывёлагадоўчых саўгасаў і таварных калгасных фэрм, прапанаваць зямельным органам, калгассаюзам і жывёлагадоўчым трэстам і калгасным цэнтрам поўнасьцю забясьпечыць усё стада жывёлы жывёлагадоўчых саўгасаў і калгасных фэрм уласнымі грубымі і сочнымі кармамі, для чаго ў бягучую сенаўборачную кампанію правесьці ўборку сена ў саўгасах на плошчы ня менш 11 млн. гект. і ў калгасах ня менш 30 млн. гект. і засіласаваць у калгасах і саўгасах ня менш 10 млн. тон сіласу.

13. Прапанаваць Наркамснабу СССР адпусьціць з дзяржаўных фуражных рэсурсаў ураджаю 1931 году Наркамзему С ССР для пакрыцьця дэфіцыту ў канцэнтраваных кармох жывёлагадоўчых саўгасаў Наркамзему і калгасных таварных фэрм:

| | | | |
|---|---|---|---|
| макухі . . . . . | 18 млн. пуд. | | |
| вотрубяй . . . . | 60 | „ | „ |
| збожжавых культур | 100 | „ | „ |

у тым ліку для пакрыцьця дэфіцыту ў канцэнтраваных кармох жывёлагадоўчых саўгасаў Наркамзему адпусьціць:

| | | | |
|---|---|---|---|
| макухі. . . . . | 15 млн. пуд. | | |
| вотрубяй. . . . | 50 | „ | „ |
| збожжафуражу . | 93 | „ | „ |

Для пакрыцьця дэфіцыту ў канцэнтраваных кармох калгасных таварных фэрм, якія ня маюць выстарчальнай колькасьці ўласных канцэнтраваных кармоў, адпусьціць з дзяржаўных рэсурсаў 20 млн. пудоў, у тым ліку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| макухі. . . . . | 3 млн. пуд. | | |
| вотрубяй. . . . | 10 | „ | „ |
| збожжафуражу . | 7 | „ | „ |

14. Для ўзмацненьня дзяржаўных рэсурсаў канцэнтраваных кармоў прызнаць неабходным шырокае разгортваньне перапрацоўкі на кармы адкідаў харча-смаковай прамысловасьці, для чаго прапанаваць у 2-й палове 1931 г. і 1932 годзе.

„Союзсахару“ вырабіць 1,5 млн. цэнтн. сухога жому.

Саюзрыбе вырабіць 0,21 млн. цэнтн. рыбнай мукі.

Саюзмясу вырабіць 0,15 млн. цэнтн. крывяной і мясакостнай мукі.

„Крахмалопаточному об'единению“ вырабіць 450,0 тыс. цэнтн. кукурузнай мязгі.

Саюзсьпірту вырабіць 70,0 тыс. цэнт. сухой брагі.

„Бродильному об'единению“ вырабіць 100,0 тыс. цэнт. драбіны.

„Бродильному „об'единению" вырабіць 50,0 тыс. цэнт. дрожджаў.

Прызнаць неабходным для забясьпечэньня гэтай праграмы павялічыць аб'ём капітальных затрат па адпаведных галінах прамысловасьці Наркамснабу для ўтылізацыі адкідаў харчовай прамысловасьці на 27 млн. руб. з асыгнаваньнем у бягучым 1931 г. 10 млн. руб. Рэшту сумы прадугледзець у пляне за першае паўгодзьдзе 1932 году.

15. Побач з разгортваньнем камбікармовай прамысловасьці ў сыстэме Наркамзему СССР стварыць у сыстэме Наркамзему СССР спэцыяльны трэст „Комбикормов" для будаўніцтва заводаў і арганізацыі вырабу камбікармоў.

Прапанаваць Наркамснабу СССР і НКЗ СССР у дэкадны тэрмін падаць у СПА плян разгортваньня камбікармовай прамысловасьці ў сыстэме Наркамснабу і Наркамзему СССР на 2-ю палову 1931 г. і на 1932 год.

Прапанаваць ВСНГ СССР у месячны тэрмін прыступіць да разгортваньня вырабу абсталяваньня для камбікармовай прамысловасьці і ўтылізацыі адкідаў харчовай і сельскагаспадарчай прамысловасьці.

16. Прапанаваць ВСНГ СССР устанавіць спэцыяльны нагляд за ходам выкананьня ўстаноўленай праграмы будаўніцтва стандартных сіласных вежаў на заводах лясной прамысловасьці і наладзіць забесьпячэньне прадугледжанага ўрадавым плянам сіласнага будаўніцтва неабходным абсталяваньнем і будаўнічымі матар'яламі.

Прапананаць Наркамзему СССР арганізаваць у сыстэме „Саюзсельстроя" спэцыяльную кантору для кіраўніцтва будаўніцтвам сіласных пабудоў і для тэхнічнага інструктаваньня будаўніцтва сіласных пабудоў, якое ажыцьцяўляецца жывёлагадоўчымі трэстамі і калгасамі гаспадарчым спосабам, вылучыўшы для гэтай канторы з рэзэрвовага фонду Наркамзему СССР 1 млн. рублёў.

17. Фонд канцэнтраваных кармоў, які вылучаецца згодна данай пастанове для саўгасаў і калгасных таварных фэрм, прапанаваць Наркамснабу адпусьціць у распараджэньне Наркамзему СССР, а выдаткаваньне яго весьці паводле пляна і ўказаньняў Наркамзему СССР, узгодненых з Наркамснабам СССР, пры гэтым павінна быць забясьпечана строгае захаваньне парадку выдачы канцэнтраваных кармоў калгасным таварным фэрмам у залежнасьці ад здачы імі таварнай прадукцыі, згодна заключаным кантрактацыйным дагаварам.

Для спрашчэньня і паляпшэньня парадку атрыманьня кармоў саўгасамі захаваць ва ўсіх раёнах сыстэму прыпіскі саўгасаў непасрэдна да элеватараў, млыноў і алейняў.

18. Адзначаючы зусім нездавальняючае выкананьне пляну капітальнага будаўніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах абавязаць крайкомы (абкомы) і ЦК нац-кампартый, „Союзсельстрой", жывёлагадоўчыя трэсты забясьпечыць завяршэньне будаўніцтва ў саўгасах, неабходнага для разьмяшчэньня жывёлы, не пазьней 15 лістапада 1931 году. Для гэтага ўстанавіць рэгулярнае, ня менш 1 разу ў месяц, заслухоўваньне дакладаў аб ходзе будаўніцтва ў крайкомах (абкомах) і райкомах партыі, усклаўшы на аднаго з членаў бюро крайкомаў і райкомаў сыстэматычны нагляд за выкананьнем пляну капітальнага будаўніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах. Прапанаваць ВСНГ і НКПС закончыць завоз будматар'ялаў, асабліва лесаматар'ялаў, адпушчаных жывёлагадоўчым саўгасам на першыя тры кварталы, не пазьней чым да 1 верасьня г. г.

19. З прычыны таго, што разгортваньне буйной малочнай гаспадаркі ў бягучым годзе сустракае значныя перашкоды з-за недахвату спэцыяльнага малочнага інвэнтару для транспартаваньня малака (флягі, бідоны і г.д.), абавязаць ВСНГ СССР і Ўсекапрамсаюз разгарнуць выраб гэтага начыньня і інвэнтару ў неабходных разьмерах для забесьпячэньня захаванасьці і дастаўкі малака на пераапрацоўчыя і спажывецкія пункты, скарыстоўваючы для гэтага ў першую чаргу саматужную прамысловасьць.

20. Для забесьпячэньня жывёлагадоўчых саўгасаў і калгасных таварных фэрм належнымі кадрамі кіруючых работнікаў

і спэцыялістаў, прапанаваць жывёлагадоўчым трэстам і Калгасцэнтру СССР:

а) давесьці ў 1932 годзе ў кожным саўгасе лік спэцыялістаў вышэйшай кваліфікацыі да 6—8 чалавек і сярэдняй кваліфікацыі да 15—20 чалавек і ў кожнай калгаснай таварнай фэрме да 2—3 спэцыялістаў вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі як шляхам разгортваньня адпаведнай сеткі ВНУ і тэхнікумаў, так і шляхам падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі праз курсавую сетку;

б) арганізаваць у сыстэме жывёлагадоўчых трэстаў і калгасных цэнтраў шырокую сетку кароткатэрміновых курсаў па падрыхтоўцы кваліфікаванай рабочай сілы (старшых гуртаправаў, скотнікаў, даярак, чабаноў, сьвінароў, птушнікаў, вэтэрынарных фэльчароў і г. д.);

в) абавязаць крайкомы, абкомы і ЦК нацкампартый у дэкадны тэрмін супольна з праўленьнямі жывёлагадоўчых трэстаў пераглядзець увесь склад упаўнаважаных трэстаў і спэцыяльных калгасных цэнтраў, маючы на ўвазе неабходнасьць падбору людзей, якія сапраўды ведаюць і могуць забясьпечыць паляпшэньне пастаноўкі справы;

г) аддзелу кадраў ЦК УсеКП(б) у месячны тэрмін перадаць Наркамзему СССР для ўмацаваньня кадраў жывёлагадоўчых саўгасаў Жывёлавода, Сьвінавода, Аўцавода, Маслатрэсту неабходную колькасьць работнікаў для замяшчэньня пасад дырэктароў і пам. дырэктароў новаарганізаваных саўгасаў і ўмацаваньня старых саўгасаў;

д) у адпаведнасьці з тым, што роль мясцовых органаў і іх адказнасьць за рэзультаты разгортваньня сацыялістычнай жывёлагадоўлі ўсё больш узмацняюцца, у асаблівасьці ў галіне будаўніцтва, фармаваньня стада і здачы таварнай прадукцыі, прызнаць правільным праведзенае НКЗ СССР пашырэньне правоў абласных упаўнаважаных жывёлагадоўчых трэстаў і перадачу ім раду апэрацыйных функцый. Ухваліць пастанову НКЗ СССР ад 14 мая, якая вызначыла пашырэньне правоў упаўнаважаных трэстаў.

21. Для забясьпечаньня разгортваньня аграмаджанай жывёлагадоўлі ў нацыянальных жывёлагадоўчых раёнах (сяр. азіяцкія рэспублікі, Казакстан, Кіргізія, Бурата-Манголія, Кара-Калпакія, Дагестан, Калмыкія) даручыць Наркамснабу і Наркамзему СССР супольна з урадамі ўказаных рэспублік і абласьцей пры ажыцьцяўленьні пляну збожжазагатовак, складаньні пляну пасеўнай кампаніі, пляну мясазагатовак і пры распрацоўцы мерапрыемстваў па асяданьні вандроўнага насельніцтва забясьпечыць правядзеньне мер, якія стымулююць разьвіцьцё таварнай жывёлагадоўлі ў гэтых раёнах:

а) прадугледзець далейшае шырокае разьвіцьцё машына-сенакосных станцый у гэтых раёнах з давядзеньнем іх ліку ў 1932 г. ня менш чым да 350;

б) разгортваньне дапаможных, спажывецкага характару, пасеваў збожжавых культур і гародніны ў раёнах, якія да цяперашняга часу зьяўляюцца выключна жывёлагадоўчымі;

в) узмацненьне забесьпячэньня гэтых раёнаў мануфактурай, абуткам і іншымі таварамі, якія выробляюцца па месцы са скуры і воўны;

г) пры кантрактацыі жывёлы ў гэтых раёнах прадугледзець забесьпячэньне неабходнага фонду збожжа ў парадку кантрактацыі, аналёгічна таму, як гэта мае месца ў адносінах тэхнічных культур;

д) канчатковую ліквідацыю на працягу бліжэйшых 2—3 год асабліва пагубных для вандроўнай жывёлагадоўлі эпізоотый;

е) узмацненьне мерапрыемстваў па павышэньні кваліфікацыі рабочых кадраў жывёлагадоўчых саўгасаў (гуртаправы, чабаны і г. д.), якія фармуюцца з мясцовага насельніцтва шляхам арганізацыі сеткі кароткатэрміновых курсаў і тэхнікумаў у гэтых раёнах.

22. У мэтах стварэньня ўстойлівай сыравай базы для ўдасканаленых мясных камбінатаў, якія будуюцца ў буйных спажываючых цэнтрах і ў асноўных жывёлагадоўчых вытворчых раёнах, прапанаваць НКЗему СССР:

а) забясьпечыць разгортваньне неабходнай сеткі жывёлагадоўчых саўгасаў у раёнах будаўніцтва мясакамбінатаў (Ленінградзкая, Маскоўская, Уральская вобласьці, Сібір і г. д.);

б) забясьпечыць здачу на мясакамбінаты ў 1933 годзе ня менш 6 млн. штук сьвіней саўгасамі Сьвінавода і ня менш 7 млн. штук калгаснымі сьвінагадоўчымі фэрмамі і ў цэлым 80 проц. патрэбнасьці мясакамбінатаў і ў 1931 годзе паступленьне з саўгасаў Сьвінавода і калгасных сьвінагадоўчых таварных фэрм на тыя-ж камбінаты ня менш 15 млн. штук сьвіней;

в) забясьпечыць здачу саўгасамі Жывёлавода на мясакамбінаты ў 1933 г. ня менш 1 млн. штук і ў 1935 г.—1,6 млн. штук, што павінна скласьці ня менш 1/3 вытворчай магутнасьці мясакамбінатаў;

г) забясьпечыць паступленьне з саўгасаў Аўцавода на мясакамбінаты ў 1933 г. ня менш 1,8 млн. штук авец і ў 1935 г. ня менш 3 млн. штук, што павінна скласьці каля 2/3 нагрузкі мясакамбінатаў.

23. Даручыць СПА не пазьней 1 жніўня забясьпечыць адпаведным фінансаваньнем у 3 і 4 кварталах праграму разгортваньня жывёлагадоўчых саўгасаў і калгасных таварных фэрм у разьмерах, неабходных для выкананьня ўсёй праграмы, намечанай гэтай пастановай.

24. Ухваліць пастанову НКЗ СССР і Калгасцэнтру аб павялічэньні, у адпаведнасьці з данай пастановай, разьмераў крэдытаваньня Малкалгасцэнтру да 165 млн. рублёў, Сьвінаводкалгасцэнтру да 55 млн. руб., інкубатараптушкацэнтру да 38 млн. рублёў і асыгнаваньня аўцаводчым калгасным фэрмам 18 млн. рублёў шляхам пераразьмеркаваньня адпушчаных Наркамзему СССР фондаў доўгатэрміновага крэдытаваньня і за кошт рэзэрву фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня.

**Старшыня СНК СССР**
**В. МОЛАТАЎ (СКРАБІН)**

**Сакратар ЦК УсеКП(б)**
**І. СТАЛІН**

30 ліпеня 1931 г.



Малацьба азімых у калгасе.

# ПЕРАБУДОВА ПАРТРАБОТЫ

**Апэрацыйнае, канкрэтнае кіраўніцтва, непрымірымая барацьба супроць кулацкай агентуры—правых і „левых“ апартуністаў, за выразную арганізацыю працы на аснове зьдзельшчыны, ацэненай у працаднёх і новы калгасны прыліў—вырашыць посьпех уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі**



## Аб апорных пунктах партыйнай работы на вёсцы

*(З прамовы сакратара ЦК УсеКП(б) тав. Постышава*

### Ячэйкі саўгасаў МТС і буйнейшых калгасаў — апорныя пункты партыйнай работы на вёсцы

Пасьля ліквідацыі акругоў, раёны набылі і большую самастойнасьць і сталі адчуваць на сябе большую адказнасьць за даручаную ім партыяй і савецкай уладай справу. Раёны—можа быць ня ўсе і ня так, як патрэбна—усё-ж значна ўмацаваны работнікамі за лік актыву ліквідаваных акругоў. Але, ня гледзячы на гэта, работнікаў у раёнах яшчэ не хапае. Недахоп кваліфікаваных работнікаў у раёнах адчуваецца асабліва востра яшчэ і таму, што крайкомы і абласкомы партыі, а таксама і ўсе іншыя краёвыя і абласныя арганізацыі яшчэ не змаглі належным чынам перабудаваць кіраўніцтва раёнамі, асабліва ў такіх краёх, абласьцях і нацрэспубліках, у якіх раёнаў налічваецца да 200—300 і больш. Такое становішча з работнікамі ў сельскіх раёнах. А работа на вёсцы вялізарная. Справа перабудовы сельскай гаспадаркі на сацыялістычны лад, якая за апошнія два гады разгарнулася і працягвае разгортвацца з вялізарным размахам і нябачнымі тэмпамі, наяўнасьць абвостранай клясавай барацьбы на вёсцы,—усё гэта патрабуе ад партыі і савецкай улады вельмі моцнага і кваліфікаванага кіраўніцтва новай калгаснай вёскай.

Зараз асабліва патрэбна кіраўніцтва на вёсцы не „наогул“, а такое кіраўніцтва, пры якім кожны камуністы, кожны камсамолец, кожны беспартыйны актывіст-калгасьнік ня толькі ведаў, але і яскрава ўяўляў сабе, якія практычныя задачы стаяць перад ім і ўсім калгасам сёньня і будзе стаяць заўтра.

Вазьмеце вы камуніста або камсамольца, працуючага на вытворчасьці, на заводзе. Ён добра разумее, што задача пабудовы сацыялізму—гэта значыць для Сталінградзкага трактарнага заводу, як мага хутчэй дабіцца выкананьня вытворчай праграмы цалкам, бо трактар зьяўляецца галоўнейшай зброяй у справе калектывізацыі, у справе перабудовы вёскі на сацыялістычны лад. Гэта ёсьць

агітацыя на справе, на прыкладзе, на практыцы за соцыялізм. Для камуністых, якія працуюць на станкабудаўнічым заводзе, гэта значыць ва што-б там ністала поўнасьцю дабіцца стопроцантнага выкананьня вытворчай праграмы па вытворчасьці станкоў, бо гэта забясьпечвае пуск у тэрмін будуючыхся ў Савецкім саюзе соцень і тысяч новых заводаў і фабрык. Вядома, што і на заводах бываюць выключэньні, але мы ў даным выпадку гаворым не аб фактах, якія зьяўляюцца выключэньнямі з агульнага правіла.

*Вось гэта сьвядомасьць сваёй ролі ў справе барацьбы за сацыялізм, у справе пабудовы сацыялізму, якое маецца зараз у пралетарыяў і ў першую чаргу ў перадавой, лепшай частцы, мы павінны выхаваць, абудзіць і ўмацаваць у калгасьнікаў і перш за ўсё у іх лепшай перадавой частцы.* Кожны калгасьнік і ў першую чаргу актывіст, павінен ясна сабе ўяўляць, што кожны лішні засееный гектар зямлі, у час засеенае і добра апрацованае поле, а галоўнае стопроцантнае выкананьне заданьняў па пасеву ўсіх культур, у тым ліку і тэхнічных, добрая організацыя ўборкі ўраджаю з мінімумам страт, кожны лішні пуд падвышанага ўраджаю з гектару, стопроцантнае выкананьне загатовак хлеба, гародніны, мяса, яек і г. д.,—гэта ёсьць барацьба за сацыялізм, барацьба за пабудову сацыялізму; гэта ёсьць палепшаньне забесьпячэньня рабочых, будуючых новыя заводы, выпрацоўваючых камбайны і трактары, прыцапныя прылады, станкі і машыны для нашай сацыялістычнай гаспадаркі, гэта ёсьць удар па клясаваму ворагу—кулаку, шкодніку, гэта ёсьць замацаваньне ўсіх заваёў Кастрычніка.

Для ўсяго гэтага патрэбна вялікая сур'ёзная бальшавіцкая работа, а для гэтай работы патрэбны людзі. Ставіць пытаньне аб людзях цяпер ужо нельга так, як раней, гэта значыць, каб гэтых людзей далі толькі фабрыка, завод, горад. Да і патрэбы ўжо ў гэтым такой вострай няма. *У калгаснай вёсцы зьявіліся свае моцныя таленавітыя, добрыя кадры, якія гатовы памерці за справу калектывізацыі.* Яны добра ведаюць, што асноўнае ў справе пабудовы сацыялізму вырашаецца на заводзе, саўгасе, МТС і калгасе. Але ў іх яшчэ мала вопыту, яны недастаткова пісьменныя, ім патрэбна дапамога, імі патрэбна кіраваць па належнаму. Як дапамагчы перадавым байцом-актывістам-калгасьнікам? Вядома, роля раённага партыйнага камітэту ў гэтай справе—вядучая, рашаючая, яна вялізарная. Але ў раённым партыйным камітэце і райвыканкоме таксама мала людзей, да мы і ня можам даць ім неабходную колькасьць людзей з гораду. Вам вядома рашэньні ЦК УсеКП(б) аб тым, што на 2 гады забаронена браць рабочых з заводаў. Сэнс гэтай пастановы ўпаўне зразумелы. Заводы зараз працуюць з гіганцкім напружаньнем. Старыя дзейнічаючыя заводы павінны рыхтаваць кадры для новых будуючыхся заводаў, заводаў адбудаваных і ўступаючых у строй. У той-жа час пытаньне аб людзях для калгаснай вёскі паўстала перад намі ва ўвесь рост. Значыць, патрэбна так перабудаваць партыйную работу на вёсцы і партыйнае кіраўніцтва калгаснымі ячэйкамі, каб гэта неабходнае кіраўніцтва было забясьпечана за лік растучых кадраў у самай вёсцы, самага сельскага раённага цэнтру.

Я ўжо казаў вышэй, што нам ўдалося некалькі замацаваць сельскія раённыя цэнтры за лік кадраў былых акруг. Вядома, гэта задача цалкам яшчэ ня вырашана. ЦК нацкампартыі, абласкомы і крайкомы павінны працягваць умацаваньне раёнаў за кошт былых акруговых кадраў. Але акрамя гэтага мы маем яшчэ вельмі вялікія магчымасьці значна палепшыць кіраўніцтва калгаснымі ячэйкамі, а гэтым самым і калгасаў у цэлым. Гэта магчымасьць заключаецца ў саўгасах, МТС і буйнейшых калгасах. У саўгасах мы маем ужо даволі грунтоўныя ўпаўне ўмацаваныя партыйныя ячэйкі. Там ёсьць камуністыя—высока кваліфікаваныя пралетары: сьлесары, рулявыя, мэханікі; там маюцца партыйцы, інжынэры, аграномы, дырэктары і намесьнікі. Тое-ж самае мы маем і ў МТС. Некалькі слабей, але ў агульным вельмі грунтоўныя кадры мы маем у буйнейшых калгасах. Вось гэтыя-то ячэйкі саўгасаў, МТС і буйнейшых калгасаў па рашэньню ЦК

УсеКП(б) мы павінны ператварыць у тыя апорныя пункты калгасных ячэек і калгасаў, якія забясьпечвалі-б моцнае, правільнае, канкрэтнае, усебаковае, бальшавіцкае кіраўніцтва калгаснай вёскай.

Як гэта зрабіць на справе? Да ячэек саўгасаў, МТС і буйнейшых калгасаў патрэбна прымацаваць бліжэйшыя да іх калгасныя ячэйкі, каб саўгасная ячэйка альбо ячэйка МТС па адносінах да прымацаваных калгасным ячэйкам грала ролю прыкладна заводзкага партыйнага камітэта. Так гаворыцца *во введении* пляну оргбюро, апублікаваным у друку. Так павінны мы праводзіць гэту пастанову ЦК і насправе, але некаторыя таварышы гэту вельмі важную задачу блытаюць альбо скажаюць. Яны хочуць пры гэтых апорных пунктах—саўгасных ячэйках альбо ячэйках МТС і ячэйках буйнейшых калгасаў—абавязкова стварыць некалькі сэктараў мець спэцыяльнага платнага сакратара камітэту і г. д. У даным выпадку такое імкненьне альбо няверна, альбо пасьпешна. Мне здаецца, што гэтага рабіць не патрэбна, у крайнім выпадку, калі і патрэбна, то як выключэньне ў некаторых ужо вельмі моцных саўгасных ячэйках, альбо ячэйках МТС,—ячэйках, ужо добра ўмацаваных за кошт сваіх упаўне вырасшых кадраў. І гэта патрэбна рабіць у кожным асобным выпадку з дазволу крайкома, абкома або ЦК нацкампартыі. А як правіла, сакратар саўгаснай ячэйкі альбо ячэйкі МТС, да якой прымацоўваюцца вакольныя калгасныя ячэйкі, зьяўляецца і сакратаром парткамітэту (апорнага пункту), прасьцей гаворачы, будзе працаваць па саўмясьціцельству. Розьніца будзе толькі ў адным: раней гэты сакратар і гэта ячэйка займаліся толькі сваім саўгасам ці МТС, а зараз яны будуць ажыцьцяўляць кіраўніцтва прымацаванымі да іх ячэйкамі. Да яшчэ розьніца будзе ў тым, што сакратара гэтага саўгасу ці МТС апорнага пункту будзе абіраць як сакратара саўгаснай альбо машына-трактарнай ячэйкі свая ячэйка, а як сакратара апорнага пункту, працуючага на правох заводзкага камітэту, будуць абіраць прымацаваныя да саўгасу і МТС ячэйкі. Справа ня ў тым, каб апорны пункт апаратна абставіў сябе, а справа ў тым, каб ён наладзіў неабходнае зараз кіраўніцтва калгаснымі ячэйкамі і калгасамі наогул.

Калі гэта пытаньне паўстала ў ЦК, мы разважалі так: каб дапамагчы калгасным ячэйкам і справай і радай у гаспадарча-палітычных і культурных пытаньнях, патрэбна прыцягнуць калгасныя ячэйкі да іх асноўных пунктаў—саўгасам і МТС у першую чаргу, і палепшыць кіраўніцтва калгаснымі раёнамі з боку партыйных арганізацый і райвыканкомаў. Прыкладна. Набліжаецца вясеньняя ці асеньняя сяўба. Патрэбна калгасам да гэтай вялікай гаспадарчай кампаніі падрыхтавацца. Роля калгасных ячэек у гэтай справе не малая. Саўгасная ячэйка ці ячэйка МТС, як апорны пункт для калгаснай ячэйкі, павінна будзе сабраць ці сакратароў, ці актыў калгаснай ячэйкі альбо калгасныя ячэйкі цалкам, прымацаваныя да апорнага пункту, а інагды і беспартыйны калгасны актыў і сумесна абмеркаваць, як правесьці вясеньнюю альбо асеньнюю пасеўную кампанію, як лепш арганізаваць збор насеннага матар'ялу, ачысьціць яго, скарыстаць угнаеньне, як лепш расставіць сілу і г. д. Вопыт паказаў, што ўборку ўраджаю праводзіць так, як праводзілі раней у калгасах нельга. Шмат страт, кепска скарыстоўваецца інвэнтар, рабочая сіла. Трэба ўсе гэтыя пытаньні арганізацыйна прапрацаваць і мабілізаваць вакол іх увагу калгасьнікаў.

Трэба калгасам дапамагчы перайсьці на зьдзельшчыну. Трэба ў адпаведнасьці з рашэньнямі партыі і савецкай улады арганізаваць разьмеркаваньне ўраджаю: патрэбна аказаць арганізаванае, разумнае супраціўленьне ядоцкім, спажывецкім тэндэнцыям, тэндэнцыям разьмяркоўваць ураджай па ядоцкіх нормах. Трэба лепш даглядаць за інвэнтаром, за трактарамі, за іншымі арудзьдзямі вытворчасьці. Трэба мацней ставіць пытаньне аб павялічэньні і абагуленай часткі жывёлагадоўчай гаспадаркі. Наладжваць птушкаводзтва. Да і барацьба з кулаком яшчэ далёка ня спынена. Трэба пераходзіць ад агрamінімуму да больш разгорнутай працы па аўладаньні агранамічнымі ведамі, той тэхнікай, якая ўводзіцца

ў сельскай гаспадарцы. Патрэбна тэхнічная пісьменнасьць. Камуністам, камсамольцам, усяму калгаснаму актыву патрэбна быць палітычна пісьменнымі. Трэба культурную справу разгарнуць у калгасе па-належнаму. Усё гэта кажа аб тым, што кіраўніцтва калгаснымі ячэйкамі і жыцьцём усяго калгасу вельмі сур'ёзна ўскладняецца.

Усю гэту работу пад кіраўніцтвам сельскіх, раённых, партыйных камітэтаў апорныя пункты ячэйкі саўгасаў, МТС і буйнейшых калгасаў—павінны будуць разгарнуць. Патрэбна арганізаць сумесныя (апорнага пункту з прымацаванымі калгасамі) вытворчыя нарады, арганізаваць фундамэнтальную бібліятэку пры саўгасе і МТС, гурткі агранамічных ведаў, гурткі па аўладаньні тэхнікай, гурткі палітграматы, трэба наладзіць работу па ліквідацыі няпісьменнасьці, работу сярод калгасьніц і г. д. Ці можам мы зараз усімі неабходнымі сіламі і сродкамі забясьпечыць кожны калгас? Вядома, яшчэ не. Але ці мы можам мы дапамагчы гэтым апорным пунктам хаця-б шляхам наездаў партыйных арганізатараў, культработнікаў, лектароў камуністых, спэцыялістых, аграномаў, інжынэраў, зоотэхнікаў і інш.? Вядома, можам і калі гэта будзе ажыцьцяўлена, тады гэтыя пункты будуць сапраўды апорнымі базамі партработы на вёсцы.

Мне здаецца, што некаторыя таварышы сьпяшаюцца і ствараюць вельмі шмат апорных пунктаў, якія працуюць на правох заводзкага партыйнага камітэту. Не заўсёды бывае з гэтага толк. Зараз цяжка даць ацэнку ўсім тым новым формам і мэтодам работы, якія ўжываюцца работнікамі на мясцох. Ці трэба ўводзіць у буйных саўгасах, калгасах нешта падобнае да цэхячэек або партыйных груп ці ўчастковых ячэек, брыгад і г. д.? Трэба прыглядзецца, вывучыць, замацоўваць лепшае, апраўдаўшае сябе, распаўсюдзіць на другія калгасы, а ад няўдалага пазбавіцца.

Пры наліччы апорных пунктаў ад сельскіх раённых партыйных камітэтаў патрабуецца больш кваліфікаванае кіраўніцтва гэтымі апорнымі пунктамі. Гэта сельскія райкомы павінны ўлічыць. Яны павінны выходзіць з таго, што на апорныя пункты ўскладаецца вельмі адказная задача, а галоўнае—райкомы павінны дабіцца, каб гэтыя пункты сталі сапраўды апорнымі і каб яны забясьпечылі з свайго боку неабходную дапамогу калгасным ячэйкам, якое патрабуе ад іх ЦК партыі.

Наліччa апорных пунктаў зараз ні ў якім разе не азначае, што раённыя партыйныя камітэты павінны будуць аслабіць сваю ўвагу да калгасных ячэек. Наадварот, патрэбна яшчэ большая з іх боку ўвага і дапамога. Яны павінны вельмі многа дапамагчы гэтым апорным пунктам. Ці разгарнулі па належнаму работу ў апорных пунктах райкомы, абкомы і ЦК нацкампартыі і іх аддзелы? Не, яшчэ не разгарнулі. Гэта неабходна канстатаваць і з усёй рашучасьцю падкрэсьліць.

**Замацаваць кіраўніцтва калгасамі**

Надзвычайна важнае значэньне ў рабоце калгасных ячэек і ў кіраўніцтве калгасных ячэек з боку апорных пунктаў і сельскіх райпарткомаў мае наступны момант. Я ўжо казаў, што калгасы растуць і будуць расьці ва ўсіх адносінах і колькасна і якасна. Актыўнасьць калгасьнікаў узрастае. Калгасны актыў шукае новых форм і мэтадаў работы. І гэта апаўне натуральна. Але саўгасныя ячэйкі і ячэйкі МТС, як апорныя пункты павінны памятаваць, што калгас гэта не саўгас. Работнікі сельскіх райкомаў павінны не запамятаваць, што калгас гэта—не завод. На заводзе ячэйкі таксама інагды скажаюць сваё партыйнае кіраўніцтва і гэтым самым ускладняюць справу наладжваньня вытворчасьці. ЦК моцна паставіла пытаньне аб адзінаначальлі на заводзе. Нашы завадзкія ячэйкі лёзунг адзінаначальля вельмі марудна ажыцьцяўляюць. У калгасе ўсім калгасным жыцьцём кіруе абранае праўленьне калгасу. Праўда і там таксама павінна быць адзінаначальле. Старшыня праўленьня павінен праводзіць у жыцьцё рашэньні праўленьня настойліва і моцна. І ўсякі, хто перашкаджае яму ў гэтай справе, прыносіць шкоду. Брыгадзір у час работы павінен быць моцным кіраўніком сваёй справы, а іменна—яго павінны слухацца. І калі ячэйкі ці сакратар яе ўмешваецца ў вытворчыя распараджэньні

і ўказаньні старшыні праўленьня ці брыгадзіра,—то гэтая ячэйка парушае дырэктыву аб адзінаначальлі. Я ўжо казаў, што ў саўгасе і на заводзе ёсьць дырэктар, а ў калгасе абранае праўленьне. Вось гэту розьніцу нашыя партыйныя калгасныя ячэйкі—да і райкомы—не заўсёды разумеюць. Баюся, што саўгасныя ячэйкі і ячэйкі МТС, як апорныя пункты гэту розьніцу таксама не адразу зразумеюць. ЦК шмат разоў гаварыла, каб райпарткомы, калгасныя ячэйкі не камандвалі праўленьнем калгасу, не адміністравалі. Але мы ведаем, што інагды старшынь праўленьняў калгасаў самі ячэйкі, самі райкомы ў парадку адміністраваньня здымаюць, замяняюць другімі і гэтым самым парушаюць прынцып выбарнасьці. ЦК зараз у адносіне да такіх ячэек, якія ўмешваюцца ў справу адміністраваньня па заводах, прымае самыя рашучыя захады (і нават ня толькі да ячэек, а ў асобных выпадках да абласкомаў і крайкомаў).

Мы павінны катэгарычна забараніць калгасным ячэйкам адміністраваць у адносіне праўленьня калгасу. Праўда, слова „забараніць“ таксама будзе адміністраваньне. Але гэта ня страшна, калі трэба самым рашучым чынам забараніць. Аднак гэтага мала. Трэба ўбіць у галаву калгасным ячэйкам, кожнаму камуністаму і камсамольцу паасобку, кожнаму работніку раённага партыйнага камітэту, што гэта адміністраваньне з боку калгаснай ячэйкі праўленьне калгасу шкодна, яно ўбівае актыўнасьць калгасьнікаў, яно дае ў рукі вельмі добры козыр кулаку і кулацкім элемэнтам. Ня трэба запамятаваць, што селянін, які прышоў у калгас,—учарашні ўласьнік, які самастойна вёў сваю гаспадарку. А ў калгасе бываюць такія факты: сёньня абралі калгасьніка старшынёй. Заўтра ячэйка яго зьняла; сёньня селянін-калгасьнік прызначан брыгадзірам, заўтра ячэйка яго зьняла; сёньня яго ячэйка высунула на пасаду загадчыка скотным дваром, заўтра ячэйка яго перакінула ў другое месца і г. д., тады калгасьнік апускаў рукі і разважае пры сабе: „што-ж гэта такое? Учора я працаваў у сябе дома, сам сабе быў гаспадаром, ніхто мной не намыкаў, ніхто мной не камандаваў, ніхто мяне ня кідаў з кута ў кут, а сёньня я ў калгасе. Здавалася-б, што ўсё добра, справа агульная, справа свая, карысьць калектыўнай працы для мяне зразумела, а шыраюць мяне, кідаюць мяне ня спытаўшы аб гэтым“. Вось да чаго гэта можа прывесьці, а ў асобным выпадку бязумоўна прыводзіць калі ячэйка будзе камандаваць асобнымі людзьмі. Кіраўніцтва бяз увагі да калгасьніка, па-першае, як да жывога чалавека, а па-другое, як да ўчарашняга ўласьніка, які па яго выразу „сам сабе быў гаспадар“, ёсьць дрэннае кіраўніцтва. Гэта вялікае і вельмі сур'ёз'нае пытаньне. Інагды патрэбна зьняць чалавека, калі ён не спраўляецца з справай альбо проста шкодны чалавек. Але патрэбна зьняць так, каб зьняло яго праўленьне калгасу. Другога патрэбна перавесьці з работы на работу, але ў такіх абставінах, каб не адчуваў ніякай крыўды. Другога патрэбна зьняць з трэскам, каб у зьняцьці яго прымала ўдзел само праўленьне, каб гэта было удзелам усіх калгасьнікаў, каб гэта выхоўвала і папярэджвала іншых. Але гэта патрэбна зрабіць умела, сумесна з калгасным актывам, праз праўленьне,—а інагды праз брыгады, калі гэта датычыцца брыгады і вельмі пільна спачатку праверыць, а ня проста прымяняць голае адміністраваньне ячэйкі праз галаву праўленьне калгасу.

Я зусім не хачу казаць, што нашы сельскія раённыя камітэты працуюць дрэнна, альбо ў калгасных ячэйках толькі адмоўныя бакі ў працы. Зусім ня так. Раённыя арганізацыі і раённыя партыйныя камітэты працуюць ня дрэнна. Вядуць вялікую работу, цягнуць на сваіх плячох вялікі цяжар. Але балячак, недахопаў і вельмі сур'ёзных часам, мы ўсё-ж такі маем шмат і міма іх праходзіць ні ў якім разе не павінны. Райкомы, як гавораць, цягнуць усю работу на сваіх плячох у калгасах, а райкалгассаюзы працуюць усё яшчэ слаба. Кепска зьвязаны з калгасамі, кепска кіруюць гаспадарчым жыцьцём калгасу. Чаму гэта? Кадраў гавораць няма. Магчыма. Але прычына заключаецца ў тым, што там мала

калгасьнікаў. Такую работу райкалгассаюзу мы цярпець ні ў якім разе не павінны. Трэба ў самы бліжэйшы час выправіць работу райкалгассаюзу, зрабіць іх больш актыўнымі, гаспадарча больш пісьменнымі; зьвязаць іх мацней з калгасамі, увесьці туды больш калгасьнікаў і партыйных і беспартыйных. Гэта ня мае прамых адносін да апорных пунктаў, але гэта бязумоўна мае прамыя адносіны да краявых і сельскіх раённых партыйных арганізацый. Ня выцягнуць райкомы ўсю работу толькі на сваёй шыі, ня выцягнуць краявыя партыйныя і савецкія арганізацыі ўсю работу на сваёй шыі. Трэба ставіць работу так, каб добра працавалі кіруючыя органы самага калгасу, калгасныя ячэйкі апорных пунктаў і апорныя арганізацыі і забясьпечыць добрае кіраўніцтва калгаснымі арганізацыямі, але не падмяняць іх.

### Аб росьце партыйных арганізацый на вёсцы

Што датычыцца росту сельскіх партарганізацый за лік рабочых МТС і саўгасьнікаў, дык тут мы павінны разгарнуць вялікую работу. Трэба ўсё лепшае перадавое, пралетарскае ў МТС і саўгасу ўцягнуць у партыю, у тым ліку—лепшых перадавых спэцыялістаў.

Работа па ўцягваньню ў партыю рабочых саўгасаў і МТС у дастаткова не разгорнута. Што-ж датычыцца ўцягваньню ў партыю калгасьнікаў, дык тут трэба быць больш асьцярожным і не кіравацца толькі жаданьнем мець больш у колькасных адносінах сельскую раённую партарганізацыю, ці мець па буйней у кожным калгасе калгасную партыйную ячэйку. Толькі гэтымі меркаваньнямі ніяк нельга кіравацца пры прыёмцы ў партыю калгасьнікаў.

Мы павінны браць у партыю самых лепшых калгасьнікаў, самых праверанных у барацьбе з кулацтвам, у барацьбе за ўсе лепшыя паказальнікі работы калгасу, у барацьбе за генэральную лінію нашай партыі на справе. Такіх у партыю мы павінны прымаць. Мы павінны не забывацца ні на хвіліну, што ў калгасах ёсьць яшчэ і будуць уласьніцкія настроі, што сёнешні калгасьнік—гэта ўчарашні ўласьнік. Яго трэба яшчэ перарабіць, пераапрацаваць, над ім яшчэ трэба шмат папрацаваць. Трэба памятаваць, што кулацкія пранікненьні ў калгас яшчэ маюць месца. Што супраціўленьне да калгаснай справы там яшчэ ёсьць. Гэта мы не павінны забываць. Націск на калгасную партыйную ячэйку ўсіх гэтых настрояў вельмі напорысты. Калі гэтыя ячэйкі будуць складацца з людзей найбольш перадавых, найбольш загартаваных у барацьбе з ворагамі, у барацьбе за калгасную вёску, тады гэты напор ня страшны. Такая моцная ячэйка зможа супроцьпаставіць сябе націску з боку шкодных і няўстойлівых элемэнтаў. Вось чаму масавы ці недастаткова разборлівы прыём у партыю калгасьнікаў можа прывесьці да засьмечваньня калгасных ячэек няўстойлівымі альбо мала ўстойлівымі элемэнтамі. А гэта толькі паслабляе сілу ячэйкі, паслабіць супраціўленьне ячэйкі ў барацьбе за выжываньне рэшткаў дробнаўласьніцкіх навыкаў і традыцый у калгасьнікаў, а таксама з шкоднымі дзеяньнямі на калгас у цэлым знадворку.

Што-ж датычыцца ячэек камсамолу, дык мы павінны дабіцца, каб у кожным калгасе была камсамольская ячэйка. Наш камсамол яшчэ гэтай работы належным чынам таксама не разгарнуў, апорныя пункты саўгасных ячэек і ячэек МТС павінны будуць аказваць вельмі сур'ёзную дапамогу камсамолу ў тым, каб у кожным калгасе была арганізавана камсамольская ячэйка.

### Аб уборцы прадстаячага ўраджаю

Адна з асноўных задач парт'ячэек на вёсцы—уборка прадстаячага ўраджаю. Ураджай убіраць трэба ня так як мы убіралі ў мінулым годзе. Убраць прадстаячы ўраджай патрэбна лепш—бяз страт альбо з мінімальнымі стратамі. Для гэтага мы маем у бягучым годзе значна больш магчымасьцяй: больш вопыту, больш машын, больш сьвядомасьці і актыўнасьці ў саміх калгасьнікаў. Нам патрэбна сабраць хлеба ня менш, а больш чым у мінулым годзе. Гэты год ёсьць трэці рашаючы год нашай пяцігодкі. У гэтым годзе мы пушчаем у рух вялікую колькасьць уноўадбудаваных заво-

даў. У гэтым годзе мы павінны ўлажыць значныя сродкі ў будуючыяся заводы-гіганты, якія будуць дзейнічаць у 1932 годзе. У бягучым годзе мы ўводзім вялікую колькасьць абсталяваньня з-за мяжы для ўноўадбудаваных і рэканструіраваных заводаў. Мы павінны за гэтыя машыны плаціць, а каб заплаціць, трэба мець чым плаціць. На вёсцы і ў горадзе маюцца элемэнты, якія скуляць і падпяваюць нашым ворагам, што цяжка плаціць і вельмі шмат трэба плаціць. Ці нельга было-б расьцягнуць, каб лягчэй было плаціць. Але па гэтых элемэнтах нельга раўняцца, а трэба з імі весьці барацьбу.

Таварышы, мы праводзім індустрыялізацыю нашай краіны. Мы будуем сацыялізм у нашай краіне. Як бачыце гэта ня такая лёгкая справа. Яна патрабуе вялізарнейшага напружаньня сіл, бальшавіцкай волі, яна патрабуе вялізарнейшых сродкаў і энэргіі. Уноўадбудаваныя заводы змогуць перапрацаваць вялікую колькасьць сельскагаспадарчай сыравіны: лёну, пянькі, цукровых буракоў, хлапка і г. д., а гэта значыць, што краіна зможа больш атрымаць прадукцыі для рабочых і сялян. Мы павінны дабіцца, каб праграма сяўбы ўсіх гэтых культур была выканана і перавыканана. Мы павінны дабіцца таго, каб на гэтым вучастку ня было страт. Арганізацыя своечасовай ўборкі ўраджаю зьяўляецца адной з важнейшых задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

Вось чаму мы павінны ў уборцы ўраджаю поўнасьцю выкарыстаць усе тыя гіганцкія магчымасьці, якія мы маем у гэтым годзе на вёсцы. І тады бальшавіцкая ўборка ўраджаю будзе забясьпечана, але каб скарыстаць усе маючыяся магчымасьці, унутраныя сілы і рэсурсы, для гэтага патрэбна сур'ёзная бальшавіцкая падрыхтоўка і работа. За гэтую арганізацыйную бальшавіцкую падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю і бальшавіцкую работу мясцовыя партыйныя арганізацыі павінны ўзяцца безадкладна.



Лепшыя ўдарнікі калгасу „Бальшавік“ П. Кайтур і А. Купскі косяць сена.

# ВЫШЭЙ ТЭМПЫ УБОРАЧНАЙ!

**Поўнасьцю і бяз страт убраць ураджай. Ні хвіліны простою ўборачных машын. Бязьлітасна змагацца з прагульшчыкамі і гультаямі.**

## На перадавых пазыцыях

Калгасы Чырвона-Слабодзкага раёну другую бальшавіцкую вясну выканалі ў тэрмін з перавыкананьнем пляну па тэхнічных культурах на 40 проц. Калгасы ў агні клясавай барацьбы вялі змаганьне за выкананьне пляну. Было шмат перашкод з боку кулацкіх элемэнтаў, як атрава сьвіней ў калгасе „Шлях Леніна“, падпал у калгасе „Колас“, але ўсе кулацкія вылазкі не спалохалі калгаснае будаўніцтва. Калгасы Чырвонай Слабодчыны шырацца і мацнеюць.

### Сенаўборку выканалі

Баявая задача калгасаў па раёну— убраць 11 тысяч 360 *га* сенажаці ў тэрмін было даведзена да ўсіх калгасаў, да ўсіх калгасьнікаў беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў.

Кулацтва імкнулася сарваць гэтую кампанію, каб потым калгасы асталіся бяз корму на зіму, але калгасьнікі далі рашучы адпор усякім кулацкім плёткам. Дзякуючы ўвядзеньню зьдзельшчыны, сацспаборніцтва і ўдарніцтва, а таксама, добраму вучоту працы, калгасы Чырвона-Слабодзкага раёну 20 ліпеня ў асноўным скончылі сенаўборку і ўбрана 10 тысяч 50 *га* канюшыны.

У першых радох за скарэйшае выкананьне сенаўборкі вышлі калгасы: калгас „Шлях Леніна“ убраў сенажаці 170 *га*, „Майскі прамень“—300 *га*, Войкава—110 *га*, Будзёны—100 *га*, „Чырвоны Пу-



цілавец"—120 *га* і „Новы Шлях"—250 *га*.

Дзякуючы добрай пастаноўцы працы—сацспаборніцтву і ўдарніцтву, унядрэньню зьдзельшчыны, гэтыя калгасы вышлі першымі змагарамі па сенаўборцы ў Чырвона-Слабодзкім раёне.

### У поўнай гатоўнасьці сустракаем уборку ўраджаю

Зараз калгасы Чырвона-Слабодчыны праводзяць уборку ўраджаю. Гэтую важную палітычна-гаспадарчую кампанію калгасы добра разумеюць. Падрыхтоўка да ўборачнай была праведзена добра. Усе машыны адрамантаваны поўнасьцю дзякуючы МТС, якая маецца ў раёне. Разаслана па калгасах 13 жняярак і 30 трактароў.

Жніво ўжо ў разгары. Калгас „Чырвоная Слабада" зжаў 50 *га* жыта, калгас „Шлях Леніна"—40 *га*, „Колас"—35 *га*, „Пуцілавец"—35 *га*, Будзёны—48 *га*.

Калгасы паміж сабой заключылі ўмову на скарэйшае і лепшае выкананьне ўборачнай кампаніі; так калгас Будзёны заключыў умову з калгасам „Чырвоны Пуцілавец", калгас „Майскі прамень" з калгасам „Перамога" і г. д.

Усе трактарыстыя ў ліку 140 чалавек Танежыцкай МТС абвявілі сябе ўдарнікамі пад лёзунгам—„Ніводнай хвіліны дарма прастою трактара".

### Расьце калгасны рух

Беднякі і серадняні аднаасобнікі. бачачы сапраўды як калгасы перамагаюць на ўсіх франтох нашага будаўніцтва, штодзенна падаюць заявы ў калгасы. Калгасны прыліў на Чырвонай Слабодчыне шырыцца. Калі да ўборачнай кампаніі сярэдні процант быў 26 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы, то за гэты час уборкі ўраджаю дасягнуў 35 проц.

За апошні час у калгасы ўлілося каля 350 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. *У калгас „Майскі прамень" уступіла 80 гаспадарак, Войкава—60, Будзёны—50, Пуцілавец—40,* „Новы Шлях"—20, „Шлях Леніна"—30.

За час уборкі ў раёне арганізавалася 2 новыя калгасы: „Трэці рашаючы год пяцігодкі" і „Чырвоныя Боркі".

Замагільскі і Жываглодаўскі сельсаветы набліжаюцца да суцэльнай калектывізацыі. У гэтых сельсаветах ужо калектывізавана бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на 80 проц.

Шырыцца і мацнее калгасны рух, замацоўваюцца гаспадарча калгасы.

Брыгадзір часопісі „Шляхі Калектывізацыі"

Алесь Курловіч

## Уборку азімых скончылі

Да ўборкі ўраджаю калгас „Пераможац", Рагачоўскага раёну, падрыхтаваўся добра. Яшчэ за месяц да ўборкі быў складзен плян уборачнай кампаніі па ўсіх відах работ, які шырока быў абмяркованы на сходзе калгасьнікаў, на вытворчай нарадзе, на брыгадах. Усе ўборачныя машыны адрамантаваны, калгасьнікі разьбіліся на брыгады.

Калгас распачаў уборку сенажаці на плошчы 66 *га* заліўной і 14 *га* канюшыны, дзякуючы ўдарнай рабоце калгасьнікаў, шляхам перавыкананьня норм выпрацоўкі касавіца скончана. Пастаўлена 30 стагоў добра якаснага, сена якога ўпаўне дастаткова для ўтрыманьня жывёлы.

Цяпер ідзе ўборка азімых пасеваў на плошчы 28 *га*. Па пляну жыта павінны былі зьняць за 7 дзён, але дзякуючы ўдарнай рабоце жняцоў, асабліва Шчарбакова Янкі і Скірманта Андрэя, жніво скончылі не за 7, а за 5 дзён, прычым жніво жыта вытваралася ў начны час, таму што ўдзень ад вялікай сьпякоты каласы абіваліся аб граблі жняярак. Вязка снапоў была пераведзена на грунтоўную індывідуальную зьдзельшчыну, што дало ў выніку перавыкананьне норм выпрацоўкі і павышэньне якасьці працы.

Улік працы наладжаны добра, у працоўныя кніжкі калгасьнікаў сыстэматычна запісваюцца выпрацаваныя працадні. Уборка ідзе пасьпяхова, дзякуючы добрай падрыхтаванасьці калгасу—увядзеньня зьдзельшчыны і правільнага ўліку працы.

Я. Савіцкі.

# Добры вучот работы—добрая і дысцыпліна

Калгас „Ясная Паляна" аб'ядНае 6 вёсак, 134 гаспадаркі, ёсьць вёскі: Дуброва і Літоўская Слабада, якія поўнасьцю ў калгасе. Хаця адлегласьць ад цэнтра калгасу і вялікая—3—4 кілёмэтры, але яўка на работу сваячасовая. Калгас ужо убраў 260 *га* сенажаці і 120 *га* канюшыны. Поўнасьцю адрамантаваны машыны да ўборкі збожжа. Шэсьць жнеек, шэсьць ударных брыгад за працоўны дзень убіраюць 25 *га* азімага кліну. Ужо зараз пры пачатку ўборкі можна сказаць, што калгасьнікі ўборку скончаць раней астатніх калгасаў Шклоўшчыны. Чаму? Таму, што тут адчуваецца сапраўды працоўная дысцыпліна. Праца ў калгасе стала сапраўды „славаю і чэсьцю" кожнага калгасьніка. За час веснавой сяўбы 28 калгасьнікаў, як жанчын, так і мужчын атрымалі прэмію—прамтавары.

Ударніцтва і сацспаборніцтва шырока прымяняюцца пры пачатку ўборкі ўраджаю. Брыгады ў калгасе невялікія па 8—15 чалавек, атрымаўшы заданьне, нарад на 10 дзён, кожны ведае сваё месца час працы. Брыгада не зьбіраецца каля праўленьня калгасу, каб потым пайсьці ўжо на работу. А кожны калгасьнік зьбіраецца і ідзе на месца сваёй працы і пачынае працаваць. Брыгадзір вядзе штодзенны вучот работ і запісвае ў працоўную кніжку. Цікава адзначыць грамадзкі кантроль за работай. Праўда, у калгасе няма камісіі пры праўленьні, а брыгада правярае брыгаду па такіх разрэзах: як добра па якасьці работала брыгада, ці правільна запісана тое, што ўспахалі або ўбралі, ня прыпісана каму-небудзь і г. д.

Такая грамадзкая праверка работ брыгады брыгадай падняла дысцыпліну ў калгасе, падняла якасьць і прадукцыйнасьць працы—няма на каго скардзіцца з кіраўнікоў, калі свае калгасьнікі знайшлі няправільнасьць і выносяць на агульны сход.

Трэба адзначыць, што вытворчыя нарады зьбіраюцца падэкадна па галоўным відам работ. Такі мэтад патрэбна перанесьці і на астатнія калгасы. Шырокае прымяненьне мэтадаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва кажа аб тым, што яснапалянцы ўборку скончаць па-баявому.

**Шумілаў.**



Уборка яравых у калгасе „Надзея" (Прагінскі раён).

# Патрэбна практычная праца

Сілос зьяўляецца лепшым кормам для скаціны, які павышае ўдоі малака. Агітаваць калгаснікаў за сілос у гэтым годзе не патрэбна. Кожны калгаснік і аднаасобнік сваімі рукамі капаў ямы, клаў у ямы розныя грубыя кармы, як бульбоўнік, лісьці, батву і г. д. Сваімі вачыма бачыў як каровы ядуць і папраўляюцца і даюць больш малака. Здавалася, што сёлета за сіласаваньне возьмуцца з самага лета, каб мець у сваім калгасе такі корм. Але-ж, на вялікі жаль, гэтага некаторыя калгаснікі не ўявілі сабе і патрабуецца агітацыя, а можа што-небудзь і іншае.



Загатоўка сілосу ў калгасе імя 1-ай коннай арміі.

У Шклоўскім раёне па пляну патрэбна было выкапаць 163 сіласныя ямы і 2 вежы, якія-б поўнасьцю забясьпечылі жывёлу кармамі, плюс сена і салому. Што зроблена ўжо зараз? Зараз засіласавана і выкапана усяго 30 ям. Першымі ўдарнікамі ў гэтым напрамку аказаліся калгасы: „Ударнік", „Сормава", „Фрунзе" і іншыя. Яны ямы падрыхтавалі і засіласавалі, а астатнія чакаюць? Таму, што ў гэтых калгасах абязьлічкі няма. Гэтыя калгасы вылучылі адказнага калгасьніка за сваю сіласную яму, які і падрыхтоўвае матар'ял і шукае рабсілу, адным словам, адказвае за даручаную работу, таму і ямы ўжо гатовы. Гэта патрэбна дабіцца і ў астатніх калгасах. Трэба пакласьці канец апартуністычнаму самацёку, ніякіх адгаворак, што няма чаго зараз сіласаваць, сілос не пасьпеў, бульбоўнік рана здымаць і г. д., так што пасьпеем засіласаваць. Вось гэтае самае шкоднае якраз ёсьць у некаторых калгасах Шклоўшчыны.

Патрэбна зараз ямы падрыхтаваць з тым, каб пры ўборцы бульбы і сіласу было куды класьці, каб часам ня прышлося разам і рыць і класьці, а гэта ўжо зацяжка. Засіласаваць яму можна на працягу трох дзён ударнай работы ўдарнай брыгады і ўся справа скончана. Райкалгассаюзу патрэбна зараз усіліць тэхнагляд за будуемымі ямамі. Трэба больш жывога інструктаваньня там на месцы, бо адсутнасьць яго падчас зацягвае пабудову. Старшыні калгасаў сваіх калгаснікаў прайшоўшых курсы павінны вызваліць ад усякае іншае працы, а пад іх адказнасьць даць толькі пабудову сіласных ям. Адчуваецца недахоп цэглы і цэмэнту. Раёну зараз ужо трэба паклапаціцца, час кароткі, а яшчэ 150 ям па раёну трэба засіласаваць. Агітацыі сёлета не патрэбна, а толькі практычная работа.

**Г. Ш.**

# ПРАВІЛЬНАЙ АРГАНІЗАЦЫЯЙ ПРАЦЫ,

## шырока разгарнутым сацыялістычным спаборніцтвам і ўдарніцтвам—змагацца за скарачэньне тэрмінаў уборкі тэхкультур

# Агратэхнічныя мерапрыемствы па ўборцы і першапачатковай апрацоўцы ільну і канапель ураджаю 1931 году

Адной з галоўнейшых задач пры ўборцы і першапачатковай апрацоўцы ураджаю ільну і канапель зьяўляецца барацьба за падвышэньне якасьці прадукцыі і максымальнае скарачэньне страт у вытворчасьці. Гэта патрабуе побач з правільнай арганізацыяй працы, на аснове зьдзельшчыны, шырокага ўжываньня ўстаноўленых навукай і практыкай наступных агратэхнічных мерапрыемстваў.

## Па ІЛЬНУ

### I. Церабленьне і сушка

1. У залежнасьці ад тэрміна севу і кліматычных умоў момант церабленьня ільну наступае, калі ападаюць лісьці ніжняй часткі сьцябла каробкі і сьцяблы пажаўцеюць, насеньне зацьвярдзее і стане жаўтаватага колеру.

2. Для атрыманьня добрай якасьці ільну пэрыяд церабленьня неабходна ўсямерна скарачаць, укладваючыся ў тэрмін ня звыш 15 дзён.

3. Пры ўборцы ільну ільнацерабілкамі неабходна папярэдне падрыхтаваць вучасткі, выцярэбіўшы ўручную паласы навокал вучастка для першага праходу трактара або коняй з машынамі і акругліўшы куты кожнага вучастка. не дапускаючы пры рабоце машын крутых паваротаў.

4. Для машыннага церабленьня адводзіць найменш засьмечаныя вучасткі ільну. У выпадку наяўнасьці ў ільне буйнага пустазельля непасрэдна перад кожным праходам ільнацерабілкі трэба рукамі вырываць гэтае пустазельле з палоскі па шырыні захопу працуючай машыны. Адначасна з гэтым на той-жа палосцы трэба зьбіраць буйныя каменьні, камкі дзярніны, карэньні і інш., што можа перашкодзіць рабоце ільнацерабілкі.

5. Пры рабоце машынай без снопавязальнага апарату жмені ільну, выкідваемыя машынай, ставіць у конусы або шалашы для прасушкі.

6. Пры ручным церабленьні выбіраюць лён без пустазельля і ставяць яго ў конусы або шатры. Пры наяўнасьці дастатковай колькасьці рабочай сілы робяць церабленьне з сартыроўкай сьцяблоў па даўжыне (двайное церабленьне).

7. Сартавыя і апрабаваныя пасевы, вучасткі лепшага ільну, убіраць асобна, забясьпечваючы такім шляхам збор лепшага насеннага матар'ялу.

8. Вучасткі ільна, заражоныя хваробамі і шкодным пустазельлем (павілікай), убіраць, захоўваць і перапрацоўваць асобна, выкарыстоўваючы насеньне выключна для тэхнічных мэтаў, не дапускаючы пасева ільну на гэтых вучастках у 1932 годзе.

9. Снапы ільну, вышадшыя з-пад снопавязальнага апарату машыны, неабходна аправіць, перавясла падцягнуць і паставіць іх на месца, разьвязь зьвязаць і ўсе снапы расставіць ў бабкі для прасушкі.





Уборка ільну ў калгасе „Новы Сьвет" (Брагінскі раён).

10. Нязьвязаны лён пасьля ручнога або машыннага церабленьня, пасьля 2—3 дзённай прасушкі ў шатрах або конусах, павінен быць зьвязан у снапы і расстаўлен у бабкі для далейшай прасушкі. Перавясла скарыстоўваць з сьцяблоў ільну, не дапускаючы вязкі іх саломай і іншымі культурамі.

11. Памер снапоў у перавясла не павінен правышаць 15 *см* ($3\frac{1}{2}$ вярш.); для ачоскі галовак на машыне Гельштэйна снапы павінны быць памерам ня больш 10—12 *см* (2 з пал. 3 вярш.).

12. Адзнакай канца сушкі зьяўляецца шуршаньне галовак пры ўстрахваньні снапа і калі насеньне становіцца нармальнага карычневага колеру.

13. У тым выпадку, калі пры дрэнным надвор'і лён немагчыма дасушыць у бабках, ён складаецца ў вешалы.

## II. Малацьба і ачоска ільну і хаваньне ўраджаю

1. Малацьба галовак вытвараецца ў снапох без ачоскі галовак або з папярэдняй ачоскай галовак і наступнай іх малацьбой.

2. У мэтах хутчэйшага паступленьня саломкі ў расьціл або мочку, не дасушваючы снапы ў бабках да канца, вытвараць ачоску галовак машынай Гельштэйна або ручным спосабам на драчках або на грэбнях.

3. Сушка ачосаных галовак павінна вытварацца ў полі на месцы ачоскі на токах. Для захоўваньня ачосаных галовак у час дрэннага надвор'я павінны быць пастаўлены ў пунктах ачоскі лёгкія паветкі. Пры зацяжнасьці дрэннага надвор'я сушка вытвараецца ў сушылках, асецях, гумнах і г. д. Пры невялікай тэмпэратуры—расьцілаюцца галоўкі пластом у 20-30 *см* (5—7½ вярш.) і пэрыядычна пералапачваюцца." Сушка галовак пасьля драчак і галовак, атрыманых з вялікай колькасьцю путаніны, можа вытварацца па Пскоўскаму спосабу ў астроўях (устанаўліваюцца яловыя альбо сасновыя колья з суччам абрубленым на адлегласьці 40—50 *см* (10-13 вярш.) ад ствала, і на іх наскрозь навешваецца путаніна з галоўкамі ільну). Высушаныя галоўкі пры расьціраньні рукамі лёгка раздушваюцца і аслабаняюць насеньне.

4. У мэтах атрыманьня чыстага насеннага матар'ялу высушаныя галоўкі ачышчаюцца на веялцы ад сарнякоў і аддзяляюцца ад насеньня абмалочаныя пры ачосе.

Атрыманае пры гэтым насеньне, калі яно вельмі засьмечана, паступае ў далейшым на тэхнічныя мэты.

5. Ачышчаныя на веялцы галоўкі абмалачваюцца на машынах Шэнэля (льноцёрках і канюшына-цёрках) уручную

каткамі, бочкамі ці валькамі, пасьля чаго ворах прапушчаецца праз веялкі і ільнатрашчоткі, а насенны матар'ял ачышчаецца на ільнотрыерах.

6. Абмалот галовак у снапох вытвараецца малацілкамі Эддзі, валькамі ці каткамі, не дапускаючы ўжываньня цяжкіх каткоў (цамэнтных, каменных і інш.). Снапы ў абмалот павінны паступаць у паветрана-сухім стане.

Атрыманы ворах ачышчаецца на веялках і трашчотках, а насенны матар'ял— і на ільнотрыерах.

7. Абмалочанае і ачышчанае насеньне захоўваецца ў памяшканьнях, папярэдне прадэзэнфіцыраваных, сухіх і добра праветраных. Вільготнасьць насеньня дапушчаецца ня вышэй 15 проц. Пры вялікай вільготнасьці павінны быць прыняты захады да прасушкі насеньня, рассыпаючы яго тонкім пластом, часта пералапачваючы і прасушваючы ў сушылках пры наліччы гэтакіх.

8. Увесь ураджай саломы ільну пасьля ачосу ці абмалоту зараз-жа пастурае на расьціл ці мочку і да надыходу зімы павінен быць цалкам абернуты ў трэсту. Саломка, якая павінна быць здадзена заводам у выпадку неабходнасьці захоўваньня яе ў гаспадарцы, павінна быць добра высушана, добра ачосана ад галовак, каб пазбавіцца псаваньня яе пацукамі і павінна захоўвацца ў асецях і пад паветкай, а ў выпадку адсутнасьці такіх памяшканьняў складваецца ў стагі, камлямі ўверх, укладваючы снапы шчыльнымі радамі ў перавязку з уклонам ад сярэдзіны на верх. Стагі павінны быць складзены з крутымі і роўнымі (без упадзін) крышкамі, пакрытымі пластом дрэннай ільняной саломы.

Каб пазбавіцца ад здуваньня пакрышкі снапоў ветрам, апошняя замацоўваецца прытугамі ці гальлём.

### Расьціл і мочка саломкі ільну

1. Лепшым месцам для расьцілу ільну зьяўляюцца лугі, канюшынішча, шмат гадовыя залежы, жніўе з падсеянай канюшынай і травамі. Неабходна ўхіліцца адкрытых для ветру вучасткаў, забалочаных месц і асабліва пакрытых іржой, а таксама ўзараных вучасткаў і вучасткаў, прызначаных для пасеву ільну ў 1932 годзе.

2. Расьціл робіцца роўнымі радамі, тонкім пластом камлямі ў старану, дзе больш ветру, з разьліку 2—2,5 тоны саломкі на гектар, прычым лён розны па якасьці (даўжыня, таўшчыня саломкі), расьцілацца павінен на асобных вучастках.

3. Даведацца, калі канец лёжкі ільну магчыма толькі пры вытварэньні апрацоўкі спроб да валакна. Спробы бяруць з розных месц сьцілішча ў разьмеры кожная ня менш 1 *кг*.

4. Атрыманая трэста падымаецца з сьцілішча для прасушкі ў конусах пры сонечным надвор'і праз 5—6 гадзін могуць брацца зьвязкі і паступаць на завод альбо на ўнезаводзкую пярвічную апрацоўку. Пры захоўваньні трэсты ўжываюцца тыя самыя правілы, што і пры захоўваньні саломы.

5. Мочка павінна праводзіцца ў мачылах (ямах, пераважна ў драўляных). Пры мочцы ў натуральных вадаёмах неабходна карыстацца „заводзьдзямі“, ухіляючыся хуткага цячэньня і месц з жалезістай (іржавай) вадой. У якасьці цяжара не павінны ўжывацца зямля і дзёраны.

6. Канец мочкі вызначаецца ўзяцьцем спроб, якія прасушваюцца ў паветры, праміваюцца і трэплюцца. Гатовая трэста прасушваецца ў бабках і ўвозіцца са сьцілішча. Для атрыманьня валакна лепшай якасьці раіцца недамочаную трэсту вымаць з мачыл і расьцілаць на сьцілішчах для поўнай адлежкі і адбелкі. Канчатковая гатоўнасьць таксама вызначаецца ўзяцьцем спроб. Гатовая трэста прасушваецца ў конусах, вяжыцца ў вязкі і ўвозіцца са сьцілішч.

### Мяцьцё і трапаньне ільну

1. Мяцьцё вытвараецца мэханічнымі і ручнымі мялкамі.

2. У мяцьцё пастурае сухая трэста, прасушка якой робіцца ў сушылках, асецях, гумнах і лазьнях пры невялікай тэмпэратуры ўхіляючыся ад прасушкі.

3. У мялку павінна пастпаць астыўшая трэста, якая падаецца жменямі, выраўненымі па камлёх і роўнамерна разасланым пластом. Пры рабоце мялак лік абаротаў валоў павінен быць ня больш 90 у мінуту.

4. Атрыманы пасьля мыцьця сырэц адлежваецца ў закрытым памяшканьні, якое не апальваецца.

5. Трапаньне лёну вытвараецца на бэльгійскіх калёсах ці ручнымі трапаламі. Пры тропцы лён падбіраецца жменямі па даўжыні і колеру, папярэдня атропвая начыста галоўку.

6. Атропаны начыста лён акуратна складаецца па сартох і моцна вяжацца ў кіпы і да здачы загатавіцілем захоўваецца ў чыстым неапаліваемым, але ня вільготным памяшканьні. Кіпы складаць на вышкі з дошак ці жэрдак, адступаючы ад сьцен. У цёплы час памяшканьне неабходна праветрываць.

## ПА ІЛЬНУ КУДРАШУ

1. Пэрыяд уборкі ільну кудраша наступае ў стане поўнай сьпеласьці. Уборка вытвараецца жаткамі ці лобагрэйкамі або ўручную—касамі.

2. Пры скарыстаньні саломы ільна кудраша на валакно ён усьлед за жаткамі вяжацца ў снапы і ставіцца ў бабкі для прасушкі.

Калі салому ільна не апрацоўваюць на валакно, то яго магчыма не вязаць у снапы, а зграбаць коннымі граблямі і складаць у копы.

3. Пасьля таго як пройдзе 6—10 дзён, лён звозіцца да месца абмалоту ў скірды альбо прама пад малацілку.

4. Пры скарыстаньні саломы на валакно малацьба вытвараецца ў снапах малацілкай Эддзі ці каткамі, у адваротным выпадку лён абмалачваецца хлебнай малацілкай.

5. Пасьля абмалоту ворах ачышчаецца на веялках і ільнатрашчотках, а насенны матар'ял на ільнатрыерах.

6. Пры захоўваньні неабходна насеньне прасушваць на таких, рассыпаючы пластом 20—30 *см* (5—$7^1/_2$ вярш.), пералапачваючы, а затым захоўваць у сухім, чыстым, праветрываемым памяшканьні, пільна наглядаючы, каб насеньне не сагравалася.

7. Салома, якая не перапрацоўваецца на валакно, складаецца ў скірды, а падлягаючая апрацоўцы альбо захоўваецца пад паветкай, або складаецца ў скірды, якія павінны быць пакрыты саломай.

8. Сартавыя і апрабаваныя пасевы і лепшыя вучасткі ільну ўбіраюцца асобна і насеньне захоўваецца для пасеўных мэтаў.

Лён з вучасткаў, заражоных хваробамі і засьмечаных шкоднымі травамі, убіраецца і захоўваецца таксама асобна і насеньне выкарыстоўваецца выключна для тэхнічных мэт.

## ПА КАНОПЛІ

### I. Уборка пасконі каноплі.

1. Уборка пасконі вытвараецца выключна ручным церабленьнем, калі заканчваецца красаваньне і вярхушкі пасконі пачнуць засыхаць.

2. Цераблецьне неабходна вытвараць асьцярожна, не ламаючы сьцябло. Вышчараблена пасконь выносіцца на межы. Вяжуцца невялікія снапы, складаюцца ў бабкі і прасушваюцца на працягу некалькіх дзён, пасьля чаго вывозяцца на сьцілішча ці замачваюцца.

3. Лепшымі сьцілішчамі для пасконі зьяўляюцца луга—канюшынішча і шматгадовыя залежы, а таксама і жніўе з падсеянай канюшынай і травамі, неабходна ўнікаць адкрытых для вятроў вучасткаў забалочаных месц і асабліва пакрытых іржаўчынай.

4. Расьціл вытвараецца роўным тонкім пластом, комлямі ў бок вятроў, з разьліку $1^1/_2$—2 тоны на 1 *га*.

5. Пасконь вылежваецца на сьцілішчы 25—30 дзён і гатоўнасьць яе апрадзяляецца ўзяцьцем проб на 2 *кг* з розных месц сьцілішча.

6. Атрыманая траста падымаецца з сьцілішча для прасушкі ў конусах і пры добрым сонечным надвор'і праз 5—6 гадзін вяжацца ў вязанкі, пасьля чаго звозіцца да месца апрацоўкі і захоўваньня.

## II. Уборка канапель

1. Уборка канаплі - мацеркі наступае праз 5-6 тыдняў пасьля церабленьня пасконі, калі насеньне дасьпее, набудуць шэравата-зялёную фарбу, а лісьця пачнуць падсыхаць.

2. Уборка вытвараецца ручным церабленьнем, пры недахопе рабочай сілы— косіцца жаткамі. Пры ўборцы жаткамі платформа ўдаўжаецца, а на крыльлі набіваюцца холст ці фанера.

3. Пры тым і іншых спосабах уборкі— канаплі даюць праляжаць у радох для папярэдняй прасушкі 5-6 гадзін, пасьля чаго вяжуць у снапы, таўшчынёй 15-20 *см* (4-5 вярш.) у дыямэтры ў перавясла. Лепшая вязка ў два перавясла—адным бліжэй камлямі, а другім у самых галовак.

У час ручнога церабленьня мацеркі ці ў час вязкі пасьля церабленьня і касьбы яе жаткамі канапля-мацерка абавязкова сартыруецца па даўжыні і таўшчыні сьцябла.

Пры вязцы ў снапы, сьцяблы абавязкова павінны быць ураўнены па галоўках, для таго, каб сьцябло пры малацьбе менш псавалася.

Для перавясла патрэбна ўжываць сьцяблы канапель. Зьвязаныя снапы для далейшай прасушкі складаюць у „боровки" па даўжыні ўсяго поля (складаньне ў бараўкі вытвараецца такім чынам: першы сноп кладзецца на зямлю, наступныя снапы, апіраючыся кожны камлём на зямлю, кладуцца на ўперадзе ляжачы сноп).

У залежнасьці ад надвор'я сушка канапель у бараўках працягваецца 3-5 дзён, пасьля чаго снапы на некалькі дзён устанаўліваюцца ў бабкі і затым звозяцца да месца абмалоту.

4. У тых частках, калі каноплі выраблюяюцца выключна на валакно, церабленьне пасконі ня вытвараюць і яна ўбіраецца ў лапках зелянцом, у пэрыяд, калі на ніжняй частцы сацьвецій пачынае ствараццa насеньне. Убіраецца такая канапля жаткамі, лобагрэйкамі ці ўручную касамі. Нажы для жаткі і лобагрэйкі бяруцца з насечкамі. У выпадку, калі канопля нізкарослая, яе магчыма ўбіраць снопавязалкамі.

5. Пасьля ўборкі зелянца сьцябло астаўляюць ляжаць на зямлі для прасушкі, а праз 2—3 дні прыступаюць да вязкі ў снапы і складаюць у бакі, а калі яно недастаткова прасохла, то папярэдня ўкладваюць у „боровки".

## III. Абмалот каноплі і захоўваньне саломы і насеньня

1. Абмалачваць каноплі магчыма 3 спосабамі: спэцыяльнай малацілкай Цітова, абмалачваньне на зернавых малацілках „адсечаных" папярэдня галовак і ручным абмалотам—цапамі.

2. Для таго, каб магчыма раней вытвараць мочку канапель, неабходна папярэдня абсячы галоўкі з насеньнем. Адсякаюць галоўкі ручной касой на козлах для рэзкі ці на саломарэзках. Атрыманыя галоўкі прасушваюцца і абмалачваюцца на звычайных зернавых малацілках, устаноўленых так, каб зярно не драбілася. Сьцябло зараз-жа паступае ў мочку.

3. Атрыманы пры малацьбе „ворох" прапушчаецца праз веялку, а насеньне аддзяляецца з вораху граблямі і абмалачваецца на зернавых малацілках.

4. Канопля, убраная зелянцом, хаця і не дае насеньня, але пасьля сушкі абмалачваецца для ўдаленьня лісьцяў і сацьвецій.

5. Насеньне канапель лёгка псуецца, таму захоўваньне іх патрабуе асобай увагі. Захоўваць насеньне добра прасушанае на таках ці ў сушылках, у чыстых, сухіх, праветрываемых памяшканьнях, рассыпаным на паліцах (ярусах) пластом ня больш 20—25 *см* (5-6$^{1}/_{4}$ вяршка), увесь час пералапачваючы.

6. Саломка, падлягаючая здачы заводам, у выпадку неабходнасьці захоўваньня яе ў гаспадарцы павінна быць добра высушана, абмалочана і павінна захоўвацца ў гумнах ці пад паветкай, а ў выпадку адсутнічаньня такіх памяш-

каньняў складаецца ў скірды, камлямі наверх, укладзеная снапамі ў шчыльныя рады ў перавязку з ухілам ад сярэдзіны верха. Скірды павінны быць з крутымі і роўнымі крышамі (без упадзін), прыкрытымі пластом дрэннай канаплянай саломы.

## IV. Мочка канапель

1. Мочка канапель вытвараецца ў мачылах (ямах) пераважна драўляных (зрубы, дашчатыя, плетневыя), у натуральных вадаёмах і ў праточных незамярзаючых узімку крыніцах. Неабходна, карыстаючыся „заводзямі", зьбегнуць шпаркіх плыняў, жорсткай жалезістай (іржавай) вады.

2. Перад мочкай каноплі абавязкова сартыруюцца на буйна-сьцябловую і дробнасьцябловую, а таксама доўгую і кароткую, закладваючы ў мочку кожны сорт асобна.

3. Закладаецца каноплі ў мочку зьвязанымі пластамі, на жардзях памерам 2 *м* шырыні, 3—4 *м* даўжыні і да 1,5 вышыні, агульнай вагой плота каля 1 тоны. Пагружэньне ў ваду вытвараецца альбо драўлянымі зажымамі ці асобнымі кольлямі з крукамі ці накідкай цяжара, прычым у гэтым выпадку не дапушчаецца прымяненьне зямлі і дзярна.

4. Працягласьць мочкі ў залежнасьці ад тэмпэратуры вады працягваецца ад 15 да 50 дзён. Гатоўнасьць апрадзяляецца ўзяцьцем спроб з розных месц, памерам кожная 2—3 *кг*, прасушкай іх і мяцьцём.

5. Вымачаная каноплі расстаўляецца ў бабкі для прасушкі, пасьля чаго паступае на захоўваньне або ў далейшую пераапрацоўку.

6. Высушаная траста каноплі да паступленьня ў пераапрацоўку захоўваецца ў гумнах, пад паветкай і ў скірдах шчыльна ўкладзеных і добра пакрытых жытняй саломай.

## V. Мяцьцё канапель

1. Высушаная траста канапель на сонцы ці ў сушылках, гумнах, лазьнях паступае на мяцьцё з адначасовай ачысткай кастры.

2. Мяцьцё вытвараецца мэханічнымі і ручнымі мялкамі. Пры рабоце мялак лік абаротаў валоў павінен быць ня больш як 90 у мінуту.

3. Прамятая траста зьбіраецца жменямі па даўжыні, колеру і якасьці і ў жменях вяжацца ў „вязкі", па 12—15 *кг* вагай.

А. С.



# На барацьбу са стратамі

## Як пабудаваць зернаўлавіцель

Пры сучасных спосабах уборкі збожжа самаскідкамі і снопавязалкамі ў жаркую пагоду, асабліва сьпелага, праісходзіць страта часткі зярна, якая пры скідваньні збожжа з плятформы згортваецца разам з ім і застаецца на полі.

У мэтах папярэджаньня гэтых страт зярна неабходна прыстасаваць да жатак зернаўлавіцелі, якія дзякуючы прастаце сваёй канструкцыі, могуць быць зроблены ў кожнай гаспадарцы.

Зернаўлавіцель, прадстаўляе драўляную скрынку, скалочаную з дашчок. Шырыня скрынкі ўнутры робіцца ў 35 *см*, а глыбіня ў 12 *см*. Даўжыня скрынкі робіцца з такім разьлікам, каб яна поўнасьцю адпавядала па даўжыні боку плятформы самаскідкі, з якога скідаюцца снапы.

Верх. скрынкі ўдоўж на шырыню ў 15 *см* перакрываюцца двух-сантымэтровай дошкай, а астатнія 20 *см* і абцягваюцца драцяной сеткай з прасьветам каля 12 кв. *мм*.

Тарцы скрынкі робяцца з больш моцных і тоўстых, каля $2\frac{1}{2}$—3 сантымэтравых, дошчак і баковыя-ж дошкі бяруцца больш танейшыя і лягчэйшыя. Драцяную сетку магчыма браць ад сіт старых арф з адпавядаючымі прасьветамі.

У дне з таго боку, што ставіцца да грабельнай стойкі, прарэзваецца дзірка разьмерам 20×20 *см*, якую закрываюць бляшанай альбо драўлянай засоўкай праз прарэз з боку борта скрынкі, і якая служыць для апаражніваньня зернаўлавіцеля.

Для ўмацаваньня на месцы зернаўлавіцель падстаўляецца пад плятформу з таго боку, з якога скідаюцца снапы, з такім разьлікам, каб дошка крышкі хавалася пад плятформай і змацоўваюць некалькімі 5 *см* шурупамі, якія прапушчаюцца праз дошкі плятформы, у дашку крышкі зернаўлавіцеля.

Сетка такім чынам служыць працягам плятформы і стаіць невялікім уступам ад канца яе і ўдліняе плятформу на 19—20 *см*.

На ўзор гэтых зернаўлавіцеляў трэба прыстасаваць зернаўлавіцелі да снопавязалак пад снопавязальным сталом.



# Кансультацыя па пытаньнях калгаснага будаўніцтва

*(Адказы на запытаньні)*

1-е запытаньне. Ці можна прымаць у колгас адзіночак, выбыўшых з сваіх сем'яў?

Адказ. Кожны член бядняцка-серадняцкай сям'і, які дасягнуў 16-ці год, мае права ўстроіць у члены калгасу, незалежна ад згоды астатніх членаў яго сям'і. Калі адзін член сям'і жадае ўступіць ў калгас, а астатнія не жадаюць, то ў такім выпадку ўступаючы ў калгас член сям'і мае права патрабаваць выдзелу сабе часткі зямельнага вучастку з сваёй гаспадаркі і адпаведнай долі маемасьці, якую ён павінен перадаваць у калгас. У выпадку адказу астатніх членаў сям'і вылучыць у добраахвотным парадку частку маемасьці пастулаючаму ў калгас члену сям'і, ён мае права патрабаваць разьдзелу праз сельскі суд.

2-е запытаньне. Як падрыхтаваць рахункавода для калгасу, калі ў раёне няма зараз курсаў? (калгасьнік Гардзецкі, Лагойскага раёну).

Адказ: Калі ў раёне не праводзяцца зараз курсы па падрыхтоўцы рахункаводаў, то трэба пасдаць пісьменнага калгасьніка ці калгасьніцу ў суседні калгас, дзе добра наладжана рахункаводзтва і ёсьць рахункавод і дагаварыцца з гэтым рахункаводам, каб ён навучыў на працягу 1—2 месяца вашага калгасьніка, як трэба весьці рахункаводзтва. Рахункаводу за навучаньне трэба ўстанавіць плату па згодзе з ім, а калгасьніку, якога вы накіроўваеце на курсы, трэба залічваць за час знаходжаньня яго на курсах ці навучаньні пры рахункаводу, працадні, згодна сярэдняй выпрацоўкі яго за апошнія 1—2 м-цы.

3-е запытаньне. Ці правільна гэта, калі кожны дзень пасылаюць новых людзей даглядаць за жывёлай (каровамі, сьвіньнямі і г. д.) (калгасьнік Каравай, Плешчаніцкага раёну).

Адказ: Няправільна. Нельга кожны дзень пасылаць людзей, якія даглядаюць за жывёлай. Наадварот, трэба, каб для догляду за жывёлай вылучаліся лепшыя калгасьнікі на ўвесь час працы і ня мяняліся, за выключэньнем толькі тых выпадкаў, калі той альбо іншы калгасьнік не спраўляецца з даручанай працай.

4-е запытаньне. Ці можна ўзыскваць судовым парадкам устаноўленыя процантныя адлічэньні ў карысьць калгасу ад заробку служачых, якія зьяўляюцца членамі калгасу?

Адказ. Калі служачы—член калгасу ня выконвае статуту с.-г. арцелі аб адлічэньні ўстаноўленага проценту ад свайго заробку, такога члена калгасу трэба выключыць з калгасу.

5-е запытаньне. Аб настаўніках - калгасьніках.

Адказ: 1. Пры ўступленьні ў с.-г. арцель настаўнікі, якія ня маюць сельскай гаспадаркі, альбо долі ў сялянскім двары, павінны ўнесьці аднаразовы ўступны ўзнос у разьмеры 3 проц. гадавое зарплаты.

2. Настаўнікі, якія маюць гаспадарку, альбо долю ў двары, уносяць у калгас звыш гэтага яшчэ ад 5 да 25 руб. уступнага ўзносу на ўсю гаспадарку, у залежнасьці ад моцнасьці гаспадаркі і абагульваюць згодна статуту сваю сельскагаспадарчую маемасьць. Моцнасьць гаспадаркі для вызначэньня разьмеру ўступнага ўзносу (ад 5 да 25 руб.) устанаўляецца поводле разьмеру аблажэньня гаспадаркі ў папярэднім годзе сельскагаспадарчым падаткам.

Апрача вышэйпаказаных уступных узносаў, калгасы ня могуць устанаўляць якіх-небудзь іншых абавязкаў адлічэньняў ад зарплаты настаўнікаў.

3. Дзяржаўныя пэнсіі, якія атрымліваюць настаўнікі, поўнасьцю захоўваюцца за імі пры ўступленьні ў калгас.

4. Настаўнікі прыцягваюцца да ўдзелу ў вытворчай і культурнай рабоце калгасу ў такіх формах, у якіх калгас лепш за ўсё можа выкарыстаць іх падрыхтоўку—удзел у складаньні вытворчых пля-

наў, у арганізацыі працы, у правядзеньні вучоту, у кіраўніцтве дзіцячымі ўстановамі і г. д.

5. Работа настаўнікаў—членаў калгасу па складаньню вытворчых плянаў, справаздач, вядзеньню вучоту, пастаянная работа ў дзіцячых установах і г. д. улічваецца ў працаднёх, на аснове чаго настаўнікі ўдзельнічаюць у разьмеркаваньні ўраджаю і прыбыткаў калгасу па працаднёх.

6. Настаўнікі, якія пастаянна ўдзельнічаюць у вытворчай рабоце у парадку правядзеньня палітэхнічнай праграмы школы, атрымліваюць прадукты з прадавольственнага фонду калгасу па цьвёрдым цэнам, калі яны не снабжаюцца спажывецкай каапэрацыяй.

7. Калі ў калгасе ёсьць дзіцячыя сады, ясьлі, пляцоўкі і г. д., дзіцячыя ўстановы, дзеці настаўнікаў прымаюцца ў гэтыя установы нараўне з дзецьмі калгасьнікаў.

8. Калгаснымі сталоўкамі, пральнямі, рамонтнымі кравецкімі і шавецкімі майстэрнямі настаўнікі—члены калгасаў абслугоўваюцца нараўне з іншымі членамі калгасаў.

6-е запытаньне. Пры пераходзе калгасьніка ў другі калгас, як паступіць з паем, уступным і непадзельным капіталам?

Адказ 1. Прымаючы пад увагу, што членства ў калгасах заснавана на поўнай добраахвотнасьці,—пераход з аднаго калгасу ў другі залежыць ад жаданьня калгасьніка.

2. Член калгасу, які жадае перайсьці ў другі калгас, заручыўшыся папярэдня згодай другога калгасу прыняць яго членам, павінен падаць аб гэтым заяву ў той калгас, членам якога ён састаяў да гэтага часу. На падставе такой заявы праўленьне калгасу ці агульны сход калгасьнікаў, даючы згоду на выхад гэтага калгасьніка з членаў калгасу, адначасова адзначаюць ў сваёй пастанове аб тых абавязках, якія выходзячы калгасьнік павінен выканаць у адносінах да гэтага калгасу і аб разьмеры паю, які лічыцца ў калгасе за выходзячым калгасьнікам, прычым гэты пай на рукі выходзячаму калгасьніку не выдаецца, а пераводзіцца праўленьнем калгасу ў той калгас, у якіх пераходзіць выходзячы калгасьнік.

3. Тая частка абагуленай маемасьці выходзячага з калгасу калгасьніка, якая залічана ў непадзельны фонд, а таксама ўступны ўзнос ні ў якім разе яму не звярочваецца і ў другі калгас не пераводзіцца, а застаюцца ў тым калгасе, з якога калгасьнік выходзіць.

4. Разьлік з перашоўшым у другі калгас калгасьнікам ці цэлым дваром за яго працу ў калгасе ўтвараецца паводле артыкулаў 10 і 15 прыкладнага статуту сельскагаспадарчай арцелі, г. зн. у канцы гаспадарчага году, пры агульным разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў у калгасе.

5. Калі пры вышэйпаказаных умовах новы калгас, у які калгасьнік жадае ўступіць членам, згодзіцца прыняць яго, перашоўшы калгасьнік павінен будзе ўнесьці ў гэты калгас уступны ўзнос і дагаварыцца з калгасам наконт разьмеру паю і ўзносу ў падзельны фонд калгасу.



Лепшая ўдарніца калгасу „Кастрычнік"

# Палажэньне аб рабоце брыгадзіра і парадку ацэнкі яго працы

1. Брыгада зьяўляецца асноўным апэрацыйным зьвяном у калгасе, кіраўнік брыгады—брыгадзір—цэнтральная фігура калгаснай вытворчасьці. Брыгадзір непасрэдна арганізуе работу калгасьнікаў у брыгадзе і праводзіць у жыцьцё ўсе мерапрыемствы, вызначаныя вытворчым плянам калгасу.

2. Брыгадзір назначаецца праўленьнем калгасу з найбольш вопытных і актыўных калгасьнікаў і калгасьніц-ударнікаў з ліку батракоў, беднякоў і лепшых адданых справе калектывізацыі серадбякоў, якія зьяўляюцца перадавымі па ўжываньні сацыялістычных форм працы (сацспаборніцтва і ўдарніцтва). Зьняцьце брыгадзіра з работы робіцца праўленьнем толькі пасьля падрабязнага высьвятленьня яго непрацаздольнасьці кіраваць брыгадай.

3. Брыгадзір адказвае асабіста за работу ўсёй брыгады, атрымлівае заданьне (нарад), назначае адказных асоб за выкананьне кожнай работы ў брыгадзе, кантралюе выкананьне калгасьнікамі даручанай ім работы, робіць ацэнку і вядзе ўлік колькасьці і якасьці выкананьня работы кожным калгасьнікам.

4. Як правіла, брыгадзір павінен атрымаць нарад на работы загадзя перад пачаткам гэтых работ. Інфармуе калгасьнікаў і прапрацоўвае разам з імі атрыманае заданьне.

5. Брыгадзір штодзенна інфармуе праўленьне або кіраўніка галіны гаспадаркі аб ходзе выкананьня даручанай яго брыгадзе працы і вядзе шырокую масавую работу па ўкараненьні ў брыгадзе форм сацыялістычнае працы, якія забясьпечваюць сваячасовае выкананьне і перавыкананьне даручаных брыгадзе заданьняў.

6. Для пасьпяховага правядзеньня ўліку працы калгасьнікаў у больш буйных брыгадах, у дапамогу брыгадзірам вылучаецца са складу калгасьнікаў спэцыяльная асоба-вучотчык, які пад кіраўніцтвам брыгадзіра праводзіць абмер плошчаў месц работы, або падлік выпрацаванай брыгадай на кожны дзень прадукцыі і робіць налічэньне калгасьнікам працадзён за зробленую работу. Запісы працадзён у працоўных кніжках калгасьнікаў абавязкова праводзяцца за подпісамі брыгадзіра.

7. Брыгадзір асабліва прымае работу ад калгасьнікаў і робіць яе ацэнку, ён асабіста мае права зьніжаць працадні калгасьнікам за дрэнную якасьць работы або за парушэньне імі працдысцыпліны, нядбайныя адносіны да інвэнтару, цягавай сілы і г. д. у межах, вызначаных праўленьнем і агульным сходам калгасу. Лепшых калгасьнікаў ён прадстаўляе праўленьнем для прэміяваньня.

8. Брыгадзір абавязкова прымае ўдзел у агульных вытворчых нарадах калгасу, кіруе вытворчай нарадай па брыгадзе і сыстэматычна інфармуе праўленьне і вытворчую нараду аб становішчы працдысцыпліны, выпрацоўцы калгасьнікаў і ўсіх недахопах, якія перашкаджаюць правільнай арганізацыі працы ў брыгадзе.

9. Ацэнка работы брыгадзіра павінна праводзіцца выключна, выходзячы з колькасьці і якасьці выкананай работы ўсёй брыгадай. Брыгадзір, як правіла, павінен прымаць удзел у рабоце сумесна з брыгадай, за выключэньнем тых выпадкаў калі брыгадзір вызвален ад фізычнай работы пастановай праўленьня калгасу. Брыгадзір можа быць вызвален ад фізычнай работы толькі ў тых выпадках, калі брыгада вялікая. За кіраўніцтвам брыгадай і дадатковую работу брыгадзіра па абмеры, уліку працы і запісе працадзён брыгадзірам налічваецца дадаткова да выпрацаваных ім працадзён 15 сотак пры колькасным складзе брыгады да 25 асоб і 25 сотак звыш 25 асоб.

Калі брыгада сыстэматычна ня выконвае норм выпрацоўкі, дрэнна працуе і г. д., праўленьне калгасу пазбаўляе брыгадзіра ўстаноўленых надбавак.

10. За сыстэматычнае перавыкананьне норм брыгадай і датэрміновае выкананьне нарадаў, брыгадзір павінен прэміявацца асобна працаднямі, або грашыма і натурай. Прэміі брыгадзіраў вызначае праўленьне калгасу на аснове высьветленых дасягненьняў у рабоце брыгад.

Адказныя рэдактары: С. Міцькоў, Н. Міхайлаў.

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі“**

**Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў**

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць

ЧАСОПІС **„ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“**

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТА-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| На 1 год | — 24 нумары | . . | 3 руб. | |
| „ 6 мес. | — 12 „ | . . | 1 „ | 50 к. |
| „ 3 „ | — 6 „ | . . | — — | 75 „ |
| „ 1 „ | — 2 „ | . . | — — | 25 „ |

**Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу**

**Адрас рэдакцыі часопісу:**

***г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.***

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1523. Гало ўлітбел № 1753.